# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 12 (2310) 25 сакавіка 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

## ПОПЕЛ І ЗВАНЫ ХАТЫНІ



Гэта месца было своеасаблівай Меккай, куды імкнуліся дайсці і даехаць, бадай, усе, хто трапляў у Беларусь, асабліва ўпершыню. Афіцыйная хроніка заўсёды заканчвалася радкамі: дэлегацыя ці высокі госць пабывалі ў Хатыні. Маршрут кожнай турысцкай групы ці то з любой рэспублікі Саюза, ці то з-за межаў яго, у тым ліку і нашых суайчыннікаў з Еўропы і Амерыкі, у абавязковым парадку пралягаў праз Хатынь. Ужо не гаворачы пра нашых школьнікаў, ветэранаў, проста звычайных людзей, якія сем'ямі ехалі ў Хатынь, бо гэта была нейкая ўнутраная патрэба, як прычасце, ці што.

Паўвека мінула з таго трагічнага дня, калі 22 сакавіка 1943 года была спалена лясная вёсачка Хатынь разам з яе 149 жыхарамі. Хутка стольні ж міне, як закончылася вайна, у полымі якой сканаў кожны чацвёрты беларус. Кажуць, час гоіць раны. Гэта праўда. Як праўда і тое, што час прытупляе памяць. Сёння амаль не бываюць афіцыйныя госці, дзяржаўныя мужы ля комінаў Хатыні. Сёння ўжо рэдкі турыст наведае гэтыя магілкі спаленых вёсак, бо турызм цяпер у нас стаў камерцыйным: важна, дзе што купіць і выгадна прадаць. А каб паглядзець, задумацца аб долі тых, хто быў укрыжаваны вайной за нас, такой патрэбы ўжо няма.

Вакол той колішняй Хатыні 70-х — 80-х гадоў было, можа, зашмат прапагандысцкай мітусні, многае рабілася напаказ. Сёння, калі так званая гераізацыя партызанскага руху саступае месца аб'ектыўнай яго ацэнцы гісторыяй, да нас ужо прыглушана далятае звон з Хатыні. А проза нашых панурых будняў прытупляе эмоцыі. Ды як бы там ні цякло наша жыццё сёння, Хатынь — гэты сімвал болю і пакут народа — была, ёсць і застанецца. Яе попел павінен заўсёды стукаць у нашы сэрцы. Не дзеля помсты — дзеля памяці.

## ПАКРУЧАСТЫ ШЛЯХ ТВОРА МАСТАЦТВА ДА ГЛЕДАЧА

# ШТО ТАКОЕ VITA NOVA?

Інтарэсы творчай інтэлігенцыі ўсё больш і больш перамяшчаюцца са сферы мастацкай у сферу эканамічную. У час злашчаснага застою ўлады шматлікімі "нельга" душылі наватарскія ідэі свабодалюбівых мастакоў, затое аркуш паперы і фарбы былі даступныя кожнаму. Сёння, калі можна ўсё, трэба быць геніем, каб намалявацць нешта недазволенае, дысідэнцкае ці проста авангарднае. Аднак цэны на пэндзлі і фарбы надзейней за любую цэнзуру здольны прытармазіць творчыя парыванні самога Леанарда.

Раней усё было зразумела: заканчвай мастацкі інстытут, малюй родную прыроду і з'езды камсамола, уступай у Саюз мастакоў, атрымлівай майстэрню і ідзі далей пратаптаным шляхам, адлюстроўваючы "тыповыя характары ў тыповых абставінах". Карціны ж рэгулярна выстаўляліся на рэгіянальных і ўсесаюзных выставах, а пасля — закупляліся камісіямі, каб дзесяцігоддзямі пыліцца ў запасніках музеяў. Добра жыць, калі мэты ясныя, задачы вызначаныя, а вынікі амаль што запраграміраваныя. Але ж няма больш сацрэалізму, знік за непатрэбнасцю і андэграўнд, а разам з імі, здаецца, і авангард. Цяжка становішча мастацтву, калі няма тых, хто ідзе наперадзе. Ды і са збітым творам мастацтва стала значна горш, і справа не ў тым, што дзяржава ў рэшце рэшт навучылася лічыць грошы, у яе іх проста няма. Але ж паколькі мастацтва не толькі патрабуе грошай, але і само здольна прыносіць іх, малады і жвавы наш бізнес хутка знайшоў і заняў "эканамічную нішу", якая пуставала, і ў нас пачалі з'яўляцца мастацкія галерэі.

Галерэя — гэта тая структура, што бярэ на сябе клопат аб вырашэнні праблем мастака, які, у сваю чаргу, працуе на патрэбы галерэі і, зразумела, мастацтва, ва ўсякім разе менавіта так выглядае справа ва ўсім свеце. Але ж паколькі ў нас заўсёды быў не толькі ўласны гонар, але і ўласны падыход да даўно вырашаных паўсюль праблем, у мяне ўзнікла апаска, што і тут мы можам пайсці "іншым" шляхам. Вось так і з'явілася гэтае інтэрв'ю, якое я ўзяла ў супрацоўнікаў мінскай некамерцыйнай галерэі Vita Nova Віктара ЧЫМБАРЫСАВА і Мікалая ХАЛЕЗІНА.

**— Што такое галерэя Vita Nova?**

— Наша галерэя была задумана, можна сказаць, як рэвалюцыйны рухавік для адкрыцця новых талентаў, пошуку маладых, прагрэсіўных мастакоў з яркімі ідэямі. У Беларусі нямала цікавай моладзі, але ж трэба, каб пра яе хаця б даведаліся. А самому, без дапамогі прабіцца на рынак сёння амаль што немагчыма. Вось тут і павінна адыграць сваю ролю галерэя. Ну навошта мастаку клопат аб тым, як прадаць карціну, дзе ўзяць грошы на пэндзлі і фарбы?

**— Вы назвалі сябе некамерцыйнай галерэяй, з чаго можна зрабіць вывад, што грошы для вас — не галоўнае. Дык што ж тады вы ставіце на першае месца ў сваёй дзейнасці?**

— Галоўнае, каб мастак, які прыйдзе да нас, меў сваё ўласнае бачанне свету, свае ідэі. Сёння фарбамі і тэхнікай нікога ўжо не здзівіш, патрэбна новая, уласная канцэпцыя, нешта такое, што прынцыпова адрознівала б гэтага мастака ад іншых. Такое галоўнае патрабаванне нашай галерэі да сваіх мастакоў.

**— А вы працуеце толькі са "сваімі"?**

— У нас ужо ёсць кола людзей, з якімі мы працуем пастаянна, але ж калі да нас прыйдзе чалавек з вуліцы і зможа зацікавіць сваімі работамі, мы і яму не адмовім. Але спачатку — пакажы, на што ты здольны, зацікаў сабою, і калі гэта атрымаецца — галерэя возьме на сябе фінансаванне тваёй выставы.

**— І на якія грошы?**

— Тое, што наша галерэя некамерцыйная, яшчэ не значыць, што яе наведвальнікі не могуць набыць карціны, якія ім спадабаліся. У студзені ў нас адбыўся аўкцыён, на якім карціны набывалі, і вельмі многа, нягледзячы на тое, што кошт некаторых з іх перавышаў сотню тысяч рублёў, а часам работы ацэньваліся і ў валюце. Калі карціна прадаецца, частка грошай ідзе яе аўтару, а частка — галерэі, якая адразу зноў укладвае іх у новыя праекты, падрыхтоўку выстаў, афармленне карцін. Вы нават і не ўяўляеце сабе, што сёння афармленне адной невялікай работы можа каштаваць стольні ж, колькі і сама работа.

**— А ці ёсць у вас спонсары, без якіх зараз не абыходзіцца, бадай, ніводная справа!**

— Спонсараў няма. Ёсць мецэнат. Адзін. Валерый Мацулевіч.

**— А чым спонсар адрозніваецца ад мецэната?**

— Спонсар, калі ўкладвае грошы ў справу, абавязкова разлічвае атрымаць потым нейкія рэкламныя ці фінансавыя дывідэнды. Асноўны ж матыў дзейнасці мецэната — "за дзяржаву крыўдна", таму і трэба дапамагчы.

**— Чаму галерэі пачалі з'яўляцца якраз зараз?**

(Заканчэнне на 6-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*БЕЛАРУСЬ — ЛІТВА*

## ПАДПІСАНА ПАГАДНЕННЕ

**16 сакавіка ў Літоўскай Рэспубліцы з афіцыйным візітам знаходзілася ўрадавая дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале са Старшынёй Савета Міністраў Вячаславам Кебічам. Адбыліся перагаворы ўрадавых дэлегацый Беларусі і Літвы. Былі падпісаны пагадненні аб свабодным гандлі і аб гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве на 1993 год. Дакументы ад імя сваіх урадаў падпісалі Вячаслаў Кебіч і Браніславас Лубіс, які часова выконвае абавязкі прэм'ера Літвы.**

**Яны заявілі прадстаўнікам друку, што падпісаныя пагадненні дапамогуць умацаваць добрасуседскія адносіны і створаць перадумовы для ўзаемавыгаднага развіцця двухбаковых сувязей. "Беларусь і Літва — не сапернікі ва ўмовах рынку, а партнёры, — сказаў Вячаслаў Кебіч. — І гэта зафіксавана ў падпісаных пагадненнях — не будзе перашкод ні транзіту, ні выгаднаму гандлю.**

**На перагаворах былі закрануты праблемы жыцця беларусаў Віленшчыны, у прыватнасці, разглядаліся магчымасці адкрыцця беларускай гімназіі ў Вільнюсе.**

**Дадзена заданне экспертам узгадніць усе спрэчныя пытанні, каб у бліжэйшы час была магчымасць падпісаць пагадненне аб граніцы паміж нашымі дзяржавамі. Пакуль жа падпісаны толькі пратакол, у якім прызнаецца статус-кво — існуючая граніца, што праходзіць па цяперашняй лініі карыстання зямлёй.**



**НА ЗДЫМКУ: у час падпісання афіцыйных дакументаў.**

*"Што прыцягвае мяне сюды? Па-першае, людзі, што працуюць у навукова-вытворчым аб'яднанні "Цэнтр". Мяне натхнялі сустрэчы з вялікай колькасцю цікавых людзей. У розных краінах я сутыкаўся з рознымі пунктамі погляду і рознымі мэтамі. Тут жа я знайшоў людзей, у якіх агульная мэта: зрабіць усё дзеля таго, каб Беларусь адрадзілася, стала магутнай дзяржавай, жыла мірна, па-суседску з іншымі краінамі. Па-другое, тая работа, якую яны выконваюць, іх прадукцыя, па-трэцяе, тэхналогія. Апошнім часам я шмат дзе пабываў, а калі дакладней, аб'ехаў паўсвету. Але, прызнацца, такіх шчырых працаўнікоў, адданых сваёй справе, як тут, не часта даводзілася бачыць. Некаторыя рэчы, якія яны вырабляюць, не проста выклікаюць захапленне — здзіўляюць. Што датычыцца тэхналогіі, то ў многім яна апярэджвае сусветныя дасягненні ў такога роду распрацоўках. А вось аснашчанасць прадпрыемства вымушае жадаць лепшага. Толькі дзіву даешся, як можна на такім абсталяванні выпускаць такія унікальныя рэчы!*

*Лічу, што трэба карэнным чынам пераабсталяваць усю вытворчасць, устанавіць найноўшае абсталяванне. На гэта спатрэбяцца немалыя сродкі. І тут без замежных інвестыцый не абысціся. Толькі пры такіх умовах можна рэальна разлічваць, што прадукцыя "Цэнтра" выйдзе на сусветны рынак".*

*КАРЛ НІЛЬСАН, прэзідэнт амерыканскай кампаніі па вытворчасці лазернай тэхнікі.*

*АДНАЎЛЕННЕ*

## "ЮНЕСКА — МІРСКІ ЗАМАК"

25 тысяч долараў, выдзеленых у рамках праекта "ЮНЕСКА — Мірскі замак" Дзяржаўнаму мастацкаму музею рэспублікі, як паведаміў яго дырэктар Юрый Карачун, пойдуць на набыццё рэстаўрацыйных матэрыялаў. На першы грашовы ўзнос ЮНЕСКА — пяць тысяч долараў — былі *закуплены ў Фінляндыі кансерванты* — саставы для захавання старадаўняй каменнай кладкі. Пытанне аб запрашэнні для рэстаўрацыйных работ замежных спецыялістаў пакуль застаецца адкрытым. Патрабуюцца вялікія матэрыяльныя затраты. Напрыклад, аднаўленне толькі адной іконы цяпер каштуе мільён рублёў.

*ПРЫЗЫЎ У АРМІЮ*

## ВЫНІКІ ГАВОРАЦЬ...

**Нарэшце падведзены канчатковыя вынікі апошняга прызыву на тэрміновую ваенную службу ва Узброеных Сілы Беларусі. Усяго на ўкамплектаванне Узброеных Сіл Рэспублікі накіравана 19 251 чалавек, што складае 92,6 працэнта да плана. Выканаць яго не ўдалося па прычыне непрыбыцця па тых ці іншых прычынах на прызыўныя камісіі 1 498 нашых землякоў, у тым ліку ў Брэсцкай вобласці — 25, Гомельскай — 102, Віцебскай — 95, Магілёўскай — 60, Гродзенскай — 48 чалавек. Найбольшая колькасць "адмоўнікаў" прыходзіцца на сталіцу і Мінскую вобласць, ваенкаматы якіх "недабралі" ажно 1 168 прызыўнікоў.**

*ПАРАХОДНАЕ ТАВАРЫСТВА*

## ГДАНЬСК — НАШ ПОРТ

**Два грузавыя судны — "Грунвальд" і "Гвардыя Людова" павінны стаць польскім укладам у польска-беларускае параходнае таварыства, портам прыпіскі якога стане Гданьск. Такое рашэнне прынята ў час візіту ў гэты буйнейшы партовы цэнтр Польшчы на ўзбярэжжы Балтыкі дэлегацыі на чале з намеснікам прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Станіславам Брылем.**

**Намеснік міністра транспарту і суднаходства Польшчы Збігнеў Сулятыцкі лічыць, што існуюць магчымасці перавалкі праз Гданьск ад 5 да 10 мільёнаў тон транзітных грузаў для Беларусі.**

**У Гдыні з верасня мінулага года дзейнічае транспартная камісія, якая займаецца транзітам беларускіх тавараў праз польскія парты.**

**Як лічаць у Гданьску, у гэтага горада ёсць усе падставы стаць вядучым цэнтрам польска-беларускага супрацоўніцтва. У бліжэйшы час Рэспубліка Беларусь адкрывае ў ім сваё першае консульства на тэрыторыі Польшчы.**

*ААЗІС НА ЗАВОДЗЕ*



**Цудоўны сад вырасціў брэстаўчанін Пётр Балюк. У ім нямала рэдкіх раслін: кафейныя і бананавыя дрэвы, бамбук, цэлае сямейства кактусаў. Круглы год тут цвітуць кветкі, а ў зарасніках пяюць птушкі і шчабечуць папугайчыкі.**

**Сад гэты стаў своеасаблівым цэнтрам эмацыянальнай і псіхалагічнай разгрузкі для работнікаў брэсцкага завода "Цветатрон". Зойдуць у вольную хвілінку, набудуць душэўны спакой і абавязкова скажуць "дзякуй" добраму і працавітаму чалавеку, які стварыў гэты аазіс.**

**НА ЗДЫМКУ: Пётр БАЛЮК у зімнім заводскім садзе.**

*НЕБЯСПЕЧНА: AIDS*

## РЭЗКАЯ ЎСПЫШКА

**Сусветная арганізацыя аховы здароўя спрагназіравала ў гэтым годзе ў Беларусі рэзкую ўспышку захворвання на СНІД.**

**У сваіх прагнозах медыкі з ВОЗ абапіраліся на мінулагоднія лічбы, што сведчаць аб двайным росце інфіцыраванасці вірусам СНІД па рэспубліцы ў параўнанні з папярэднімі гадамі.**

**У 90 зарэгістраваных выпадках вірусам было інфіцыравана шасцёра дзяцей. Чацвёра нарадзіліся ад заражаных маці, двое сталі ахвярамі інфекцыі ў медустановах за межамі рэспублікі. У дзевятнаццаці чалавек выяўлена інфекцыя ў розных стадыях: васьмі пастаўлены дыягназ СНІД, двое знаходзяцца ў стадыі перадСНІД, чацвёра памерлі.**

*ПРЭЗЕНТАЦЫЯ*

## ПРАГНОЗЫ, ПРАГНОЗЫ...

**Прэзентацыя Беларускага цэнтра сацыялагічнага і палітычнага прагнозу адбылася ў сталічным Доме дружбы. Аб мэтах стварэння цэнтра расказалі яго прэзідэнт народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Генадзь Грушавой і навуковы кіраўнік прафесар Давыд Ротман. Галоўную задачу работнікі цэнтра бачаць у распрацоўцы прагнозаў развіцця сацыяльнай, палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы.**

**Удзельнікі прэзентацыі азнаёміліся з першым нумарам "Аналитического бюллетеня", які будзе рэгулярна выдавацца цэнтрам. На яго старонках можна прачытаць артыкулы вучоных далёкага і блізкага замежжа, членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета і ўрада Беларусі, прадстаўнікоў мясцовых органаў улады, лідэраў палітычных партый і рухаў.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ЗА ВЫДАЧУ агульнаграмадзянскага замежнага пашпарта цяпер у Беларусі бяруць пошліну ў памеры адной мінімальнай месячнай зарплаты (3 тысячы рублёў). За выезд на пастаяннае месцажыхарства ў іншую краіну — дзве мінімальныя зарплаты. Выезд за мяжу на 5 год каштуе 6 мінімальных зарплат.

У АДНЫМ толькі Мінску 96 тысяч грамадзян чакаюць у чарзе на ўстаноўку тэлефона. Такога шчасця прыйдзецца чакаць гады і гады, нават у льготных чэргах. Можна займець тэлефон без чаргі па камерцыйнай цане. Але для гэтага трэба мець 20 тысяч рублёў і зноў жа ... наяўнасць тэхнічных магчымасцей у раёне.

САЦЫЯЛАГІЧНЫЯ даследаванні паказваюць, што большасць насельніцтва (41,4 працэнта) адмоўна ставіцца да праводзімых у Беларусі рэформ; толькі 15,2 працэнта апытаных падтрымліваюць іх, а 35 працэнтаў не маюць пэўнай думкі на гэты конт.

У АПТЭКАХ Мінска адсутнічае 60 працэнтаў лекаў першай неабходнасці. Патрэбы жыхароў сталіцы ў медыкаментах наогул задаволены толькі на 30 працэнтаў. Такое ж становішча і ў клініках горада. Ёсць выпадкі смерці хворых з-за адсутнасці лекаў.

8,5 ТЫСЯЧЫ салдат тэрміновай службы, прызваных у свой час з розных рэспублік былога Саюза, "адбываюць" свой воінскі абавязак у цяперашняй Беларускай арміі. Паводле праведзеных апытанняў, 40 працэнтаў з іх жадаюць служыць у Беларусі, але астатнія 60 працэнтаў адмаўляюцца і служыць, і вяртацца дадому.

ПАШКОДЖАНЫ мемарыяльны комплекс каля Свіслачы ў гонар 1 159 землякоў, якія загінулі ў барацьбе з фашыстамі ў гады другой сусветнай вайны. Сучасныя вандалы ноччу спрабавалі адддзяліць ад манумента многакілаграмовую піраміду са зброі, зробленую з каляровых металаў. На гэтым можна было нябласа зарабіць, перапрадаўшы метал, скажам, у Польшчу.

ПА ДАНЫХ камітэта па экалогіі, запасаў торфу ў рэспубліцы хопіць толькі на 20 гадоў. З 1,5 мільярда тон торфу, якія маюцца ў радовішчах, ужо здабыта 1,1 мільярда тон. Цяперашнія тэмпы яго здабычы складаюць 20 мільёнаў тон у год.

СУСТРЭЧА ПРАВАСЛАЎНЫХ БРАЦТВАЎ І ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

# МЭТА – САБОРНАСЦЬ

Уладыка Філарэт падчас адкрыцця Рэгіянальнай сустрэчы праваслаўных брацтваў, праваслаўнай моладзі і прадстаўнікоў інтэлігенцыі назваў яе гістарычнай. Такая падзея адбылася на Беларусі ўпершыню. На сустрэчу былі запрошаны члены праваслаўных брацтваў рэспублікі і блізкага замежжа. Прыехалі госці з Масквы, Польшчы, са Смаленска, прысутнічалі семінарысты Мінскай духоўнай семінарыі, што ў Жыровічах.

Айцец Георгій Латушка, протаіерэй, настаяцель Свята-Петрапаўлаўскага сабора паведаміў гістарычныя звесткі, якія сведчаць, што ад пачатку існавання праваслаўнай царквы ў Полацку стваралiся братчыны, якія падтрымлівалі царкву, займаліся гаспадарчай дзейнасцю. На сённяшні дзень толькі ў Мінску дзейнічаюць некалькі праваслаўных брацтваў. Адным з першых у рэспубліцы стварылася праваслаўнае брацтва Трох Віленскіх пакутнікаў пры Свята-Петрапаўлаўскім саборы ў Мінску. Сябра дзейснай Рады, старшыня маладзёжнай філіі гэтага брацтва Алесь Ляскоў адзначыў, што дзейнасць брацтва з'яўляецца працягам традыцый знакамітых праваслаўных брацтваў часоў Рэчы Паспалітай, пра якія прафесар Усевалад Ігнатоўскі пісаў, што яны займаліся пытаннямі абароны праваслаўнай веры і беларускай нацыянальнай культуры. Задачы брацтва канкрэтныя: храмаўладкаванне, асветніцтва, выдавецкая, місіянерская дзейнасць, дабрачыннасць. Братчыкі здзейснілі ўжо два паломніцтвы ў Жыровіцкі Свята-Успенскі манастыр і ў Віленскі Свята-Духаў манастыр, сустракалі Нязгасную лампаду, запаленую ад свяшчэннага агню ля Гроба Гасподня, святкавалі 1000-годдзе праваслаўя на Беларусі. Створаны хор, які спрыяе адраджэнню традыцый беларускіх царкоўных спеваў. Пад дахам брацтва паўстала лабараторыя царкоўнай гісторыі, якую ўзначаліў Ю. Лабынцаў, доктар філалагічных навук, прафесар з Масквы. Тэма менавіта царкоўнай гісторыі мала распрацавана, і братчыкі, сярод якіх ёсць вядомыя навукоўцы, узяліся запоўніць гэты прабел.

Брацтва Трох Віленскіх пакутнікаў правяло шэраг навукова-практычных сустрэч інтэлігенцыі краю па пытаннях ролі царквы ў жыцці беларускага грамадства.

Мне здаецца, што заслугоўвае ўвагі праца сяброў брацтва па ўладкаванню і догляду Вайсковых могілкаў у Мінску, дзе была наладжана талака. Былі прыбраны магілы, ускладзены кветкі, моладзь ставіла свечкі, чытала вершы пахаваных на Вайсковых могілках паэтаў Я. Купалы, Я. Коласа, А. Гурло.

Пасля выступлення Алеся Ляскова мне падумалася, што ў наш складаны і непрадказальны час, калі абвастрыліся супярэчлівасці і ідзе расслаенне грамадства, калі ў друку можна прачытаць аб прыкладах вандалізму ў адносінах да помнікаў і магіл, пра разбурэнне пахаванняў і апаганьванне храма на Кальварыйскіх могілках і пахаванняў у Курапатах, дабрачынную дзейнасць братчыкаў, іх клопат аб магілах невядомых салдат можна, не крывячы душою, назваць святою справай.

Народны дэпутат рэспублікі Беларусь Лявон Баршчэўскі выказаў думку, што грамадства не можа быць духоўным і высокамаральным, калі такімі не з'яўляюцца асобныя яго грамадзяне. Паняцце калектыўнага розуму — гэтага ідэалагічнага штампа савецкіх часоў таксама павінна адысці, адступіць перад ростам усведамлення і імкнення ўзысці на вяршыню духоўнасці кожнай асобы, кожнага індывідуума. Праваслаўная царква заўсёды вызначалася прапагандай ідэй саборнасці, і гэтыя ідэі павінны знайсці цяпер, у канцы XX стагоддзя, сваё новае асэнсаванне.

Не надта прыязна пакуль што ставяцца ў нас да прадпрымальнікаў і камерсантаў, бо пераход да рынку не заўсёды ідзе цывілізаваным шляхам. Тым не менш, ёсць ужо выпадкі далучэння дзелавых людзей да духоўнага адраджэння Беларусі. Яскравы прыклад таму — выступленне Яна Грыба, генеральнага дырэктара акцыянернага таварыства "Кросны". Прадстаўнікі дзелавых колаў разам з братчыкамі сустракаліся з праваслаўнымі дзеячамі Беласточчыны. Там падымалася пытанне пра Супрасльскі комплекс, які, на жаль, польскія афіцыйныя ўлады ніяк не перададуць аб'яднанню беластоцкіх праваслаўных абшчын. Ян Грыб занепакоены тым, што ў Беларусі адбываецца зараз падзел, размежаванне беларускага народа на католікаў і праваслаўных і праводзіцца, з аднаго боку, паланізацыя краю, а, з другога, ідзе русіфікацыя насельніцтва рэспублікі з Усходу.

Менавіта пасля гэтага выступлення Яна Грыба і абвастрыліся спрэчкі па пытаннях узаемаадносін мовы і рэлігіі. Манах Віталій са старажытнага Турава так проста і сказаў: "Здесь запахло националистическим душком" (незабыўныя фраза камуністычнай прапаганды). Гэтае меркаванне ўзнікла таму, што падчас работы манаха Віталія ў Малдавіі, на яго думку, калі там пачалося адраджэнне малдаўскай мовы, адбылося кровапраліцце. Калі ж ён працаваў на Украіне, то ўкраінскае адраджэнне таксама стала прычынай супярэчнасцяў паміж рэлігійнымі канфесіямі. І вось зараз у ціхай Беларусі, дзе ён знайшоў спакой, у яго таксама ўзнікла трывога ў сувязі з адраджэннем, абуджэннем нацыянальнай свядомасці беларусаў.

Бедная наша гаротная мова! Яшчэ мы і не загаварылі на ёй смела, а ўжо ўзняўся перапалох перад пагрозай нацыяналізму. Больш таго, зараз гучаць выказванні аб "насильственной белорусизации" рускамоўнага насельніцтва. Хацелася б убачыць яго, насільна беларусізаванага рускага, аднак найперш сустракаеш зрусіфікаваных беларусаў, якія размаўляюць на інтэрнацыянальнай "трасянцы" і не сталі ні рускімі, ні беларусамі.

Беларусь — шматканфесійная краіна, якая пастаянна была на скрыжаваннях усіх войнаў, але не мела прыкладаў адкрытай варажнечы паміж вернікамі. І католікі, і праваслаўныя, і пратэстанты з'яўляюцца найперш хрысціянамі, таму нягожа нам дзяліць Бога. Такія думкі выказваў айцец Дзмітрый Бажко, клірык кафедральнага сабора Мінска. Яго падтрымаў Андрэй Алешка, які прадстаўляў згуртаванне беларускай моладзі "Пагоня" ў Маскве.

Семінарысты Мінскай духоўнай семінарыі ў Жыровічах, што на Гродзеншчыне, таксама з'яўляюцца членамі Праваслаўнага брацтва. У семінарыі праходзяць навучанне каля 150 студэнтаў. Гэта духоўная школа стала членам СІНДЭСМАСа — сусветнага брацтва праваслаўнай моладзі, заснаванага ў 1953 годзе для замацавання кантактаў паміж праваслаўнымі маладзёжнымі рухамі ў Заходняй Еўропе і на Блізкім Усходзе. Зараз СІНДЭСМАС служыць міжнародным брацтвам 74 праваслаўных арганізацый і багаслоўскіх школ у 32 краінах Азіі, Афрыкі, Еўропы, Блізкага Усходу, Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі. У перакладзе з грэчаскай мовы СІНДЭСМАС азначае "Саюз адзінства".

Хочацца верыць, што дзейнасць Міжнароднага саюза адзінства будзе прынята праваслаўнымі брацтвамі за прыклад дабрачыннай працы на ніве духоўнага адраджэння Беларусі.

**Галіна АГАЛАКАВА.**

З НАШАЙ ПОШТЫ

# А ХТО ЗА НАС ЗАСТУПІЦЦА?

Прачытаў у нумары 52 за 24 снежня 1992 года артыкул "Горкі дым Бацькаўшчыны". Усё гэта праўда, што там напісана. Каму мы патрэбны, мігранты, хто за нас заступіцца?! Любая Радзіма, і тая адвярнулася ад нас. Жывіце, як хочаце, мы вас туды не везлі.

Але... Быў калісьці Саюз непарушны, былі правадыры, якім прыходзілася верыць, даваць і мігранты, радзіма для тых, хто там жыве, толькі не для нас.

А тут, у свабоднай Латвіі, ідзе жыццё. Ламаюць помнікі савецкім воінам, ламаюць крыжы на магілках. Без слёз на вачах немагчыма глядзець на ўсе здзекі. Бо за гэту самую Латвію хтосьці аддаваў сваё жыццё, хтосьці абараняў яе ад нямецкай навалы. Зараз ідзе ачышчэнне нацыі. Грамадзянства атрымліваюць латышы і іх патомкі, якія жылі тут да вайны, да саракавога года, а астатнія, хто пасля вайны адбудоўваў гарады, падымаў з руін і папялішчаў заводы, фабрыкі, калгасы, саўгасы, будаваў жыллё, — тыя не маюць ніякіх грамадзянскіх правоў, яны ніхто, яны нікому не патрэбны. Пачаліся здзекі з нас, людзей трэцяга гатунку. А тут вельмі шмат беларусаў. Многіх занёс лёс на чужыну не па іх волі, а па волі правадыроў. Усе яны ў роспачы, не ведаюць, куды падзецца, што рабіць. Мне давялося з многімі гутарыць, у многіх слёзы на вачах, таму што ў іх дыпломы, вышэйшая і сярэдне-тэхнічная адукацыя, а працуюць яны вартаўнікамі, грузчыкамі, прыбіральшчыкамі. Бо ў свабоднай Латвіі трэба ведаць мову, гаварыць на ёй, каб атрымаць пасаду. Нехта паехаў бы назад у Беларусь, але... ніхто нас не чакае.

[Note: the column order in the source continues here with the left lower column.]

якія ў адно імгненне зрабілі з намі нешта жудаснае — нянавісць народаў адзін да аднаго, галеча, голад.

Я пісаў пісьмо ў "Народную газету", мару перабрацца назад у сваю Беларусь, на сваю маленькую, але дарагую сэрцу радзіму. Але пасля гэтай маёй просьбы аб уладкаванні ніхто не адказаў. Я не ведаю, няўжо на ўсёй Беларусі для мяне не знайшлі месца. Адна старая жанчына, якая не назвала сваё прозвішча і месца пражывання, напісала: "Вы мігранты, я вас не магу назваць па-другому, вось паехалі, так і жывіце там, нам вы не патрэбны". Толькі бабулька з Вілейскага раёна запрасіла да сябе ад імя кіраўнікоў калгаса. Ды хата ў яе маленькая, пераначаваць можна, а там... Куды пасля падзецца беларусам?

Месяцаў пяць назад адправіў заказным пісьмом усе патрэбныя паперы ў Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь на атрыманне грамадзянства, а адтуль ні слыху, ні дыху.

Пасылаў, пасылаў пісьмы, пытаўся, атрымалі яны мае паперы ці не, што яшчэ патрэбна. Нічога не атрымаў у адказ, за гэтыя грошы, што патраціў на канверты, мог бы з'ездзіць сам у Мінск. Апошняе пісьмо адаслаў больш месяца назад самому міністру замежных спраў Рэспублікі Беларусь і ад таго нічога не атрымаў. Не хочуць намі цікавіцца на радзіме. Мы, як восы, лезем не туды, куды трэба, паехалі, дык і жывіце, як пісала тая бабуля, мігранты ёсць

Я ганарыўся сваёй Радзімай. Слухаю кожны дзень беларускае радыё, а калі даводзіцца *быць на Віцебшчыне ў родзічаў*, дык набіраю поўную сумку газет і часопісаў на роднай мове. Вось і на гэты раз прыхапіў "Голас Радзімы", дзе прачытаў гэты артыкул і вырашыў напісаць сам, ад імя ўсіх, хто тут жыве.

З павагай і добрымі пажаданнямі ў новым годзе

**Васіль БАГАМОЛЬЦАЎ.**

**P.S.** Надрукуйце, калі ласка, маю споведзь, бо тут многа такіх, як я, нам патрэбна падтрымка, мы таксама людзі — беларусы.

З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ



**Нібы хваля марскога прыбою, навальваецца на нас злачыннасць. У мінулым годзе яна павялічылася ў Беларусі на 19 працэнтаў у параўнанні з 1991-м. Асабліва складанае становішча ў Мінску. Рост злачыннасці за год тут дасягнуў 32-х працэнтаў. На 50 працэнтаў павялічылася колькасць разбойных нападаў, на 35 — кватэрных крадзяжоў.**

**Гэтыя факты даюць падставу аднесці Мінск да ліку самых крымінагенных гарадоў былога Саюза. Цяжка паверыць у такое. Дзесяцігоддзямі сталіца Беларусі лічылася спакойнай з пункту гледжання злачыннасці. Што ж паслужыла штуршком для яе росту, парадзіла нашу няўпэўненасць, калі, ідучы на працу, хвалюешся, каб не "пачысцілі" нашы кішэні ў транспарце, не абрабавалі кватэру і г.д.**

**Адказ на пытанне і просты, і складаны. З распадам СССР, з ростам беспрацоўя, з бяздзейнасцю і часам гуманнасцю нашых законаў Мінск стаў "запаветнай зямлёй" для злачынцаў. З аднаго боку, гэта адчулі "чужакі". Маскіруючыся пад ахвяры міжнацыянальных канфліктаў, скарыстоўваючы даверлівасць, спагаду і гасціннасць беларусаў, яны ўчыняюць злачынствы.**

**Хаця навошта ўсё оптам звальваць на "гастралёраў"! Ужо не меншымі прафесіяналамі ў гэтай чорнай справе сталі і мясцовыя "джэнтльмены ўдачы". Яны падзялілі горад на сферы ўплыву. І гора таму "джэнтльмену", які паспрабуе пагаспадарыць не на сваёй тэрыторыі.**

**Яшчэ больш страшна пацярпеўшаму, які спрабуе, як кажуць, схапіць за руку злачынцу. Тут можна і на нож нарвацца. На жаль, дапамогі ад людзей, якія цябе акружаюць, рэдка хто чакае, бо сёння кожны дбае толькі пра сябе. Добра, калі міліцыя знаходзіцца побач, але ж і яна не заўжды пад рукой...**

**НА ЗДЫМКАХ: ахвяра злачынцаў; гэтаму рабаўніку не пашанцавала.**

**Фота В. СТАВЕРА і Ю. ЗАХАРАВА.**



Крыгаход на Мухаўцы.

Фота В. ВАСІЛЬЕВА.

## ПЕРАД З'ЕЗДАМ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

# ФОРМУЛА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЗГОДЫ

Той, хто цікавіцца сувязямі з беларускім замежжам, хто шчыра клапоціцца пра іхняе плённае развіццё, ведае: першая сустрэча беларусаў свету — найважнейшая падзея ў гэтым кантэксце.

Аднак працэс падрыхтоўкі да яе паказаў, што чым менш часу заставалася да яе пачатку, тым шпарчэй кружыліся вакол ідэі правядзення палітычныя карагоды самай рознай мелодыкі і танальнасці. Не буду на іх засяроджвацца. Аб гэтым дастаткова часта паведамлялі сродкі масавай інфармацыі рэспублікі. Але варта сказаць, што не пазбег палітычнага супрацьстаяння і аргкамітэт па правядзенню Першага з'езда беларусаў свету. У сярэдзіне сакавіка ён некалькі разоў збіраўся для дыскусій і абмену думкамі.

12 сакавіка гэтага года адбылося пасяджэнне пашыранага (з 38 членаў) аргкамітэта, на якім старшынстваваў міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка. На парадак дня былі вынесены два пытанні: аб змене назвы "з'езд" на "форум" і аб увядзенні ў склад камітэта новага сустаршыні ад урада. Матывацыю гэтых прапаноў, падкрэсліўшы, што час дыктуе і патрабуе неадкладна брацца за справу, а працуе толькі "Бацькаўшчына", зрабіў П. Краўчанка. На яго думку, за тэрміналагічнай зменай стаіць практычны сэнс: "з'езд" прадугледжвае больш строгі рэгламентацыйны характар і ў пытаннях прадстаўніцтва на ім, і рэгістрацыі, і неабходнасці выпрацоўкі заключных дакументаў. "Форум" — менш абмежаваная акцыя, якая дазваляе ажыццявіць большую колькасць захадаў нацыянальна-культурнага кшталту. Міністр сказаў таксама між іншым: "Мы хацелі, каб формула нацыянальнай згоды мацнела, пашыралася і набірала моц".

Думка аб мэтазгоднасці змены назвы была падтрымана большасцю прысутных. Але старшыня Рады "Бацькаўшчыны" Я. Лецка і кіраўнік рабочай групы Г. Сурмач выказаліся супраць двух пунктаў абмеркавання, грунтуючыся на тым, што аргкамітэт — толькі рабочы цэнтр Рады. І ў статуце "Бацькаўшчыны" пазначана, што вышэйшым яе органам з'яўляецца з'езд. Апрача таго ўжо разасланы многія запрашэнні, і немагчыма перайначыць тэрміналогію. І рабіць гэта цяпер, калі засталося некалькі месяцаў да з'езда, няправільна.

Перад другім пасяджэннем адбыліся папярэднія кансультацыі паміж зацікаўленымі бакамі, а 17 сакавіка аргкамітэт быў скліканы зноў. На парадку дня ўжо не стаяла пытанне аб назве, засталася ранейшая: "Першы з'езд беларусаў свету". І з боку ўправы згуртавання было заяўлена, што трэба разумець адназначна: з'езд беларусаў свету з'яўляецца з'ездам "Бацькаўшчыны". Яна яго і праводзіць. Пры гэтым не выключаюцца, а запрашаюцца да супрацоўніцтва ўсе, хто хоча прыняць удзел у падрыхтоўчай рабоце.

На другім пасяджэнні былі вызначаны (за аснову ўзяты раней зробленыя напрацоўкі ЗБС) канкрэтныя і практычныя накірункі дзейнасці. Прызначаны 18 сектараў рабочай групы (выдавецкі, фінансава-гаспадарчы, транспартны, рэдакцыйны і г.д.). У гэтыя выканаўчыя структуры ўведзены прадстаўнікі Міністэрстваў культуры, інфармацыі, замежных спраў, Беларускага таварыства па культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, таварыства "Радзіма" і іншых.

Такім чынам, Першы з'езд беларусаў свету будзе праходзіць з 5 па 10 ліпеня. 8, 9 і 10 ліпеня месцам пленарных пасяджэнняў, "круглых сталоў" і г.д. стане г. Мінск. Асобныя яго акты пройдуць на Нарачы і ў Навагрудку. З далёкага замежжа будуць запрошаны дэлегаты з беларускіх арганізацый, а таксама індывідуальныя асобы. На блізкае замежжа ўвогуле хутчэй за ўсё будзе распаўсюджаны "квотны" прынцып.

Здаецца, усе акцэнты і кропкі расстаўлены. Застаецца шчыраваць на максімальных "абаротах", улічваючы, што з'езд мае міжнародныя памеры.

Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.

## БНР: ДЗЕЛЯ КУЛЬТУРНА-НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ

# IV. ДЗЯРЖАЎНЫЯ СІМВАЛЫ

Агульнавядома, што ў жыцці кожнай дзяржавы важнае значэнне мае сімволіка. Дзяржаўныя сімвалы, як правіла, адлюстроўваюць традыцыі народа, яго гісторыю.

Беларуская Народная Рэспубліка як дзяржаўнае ўтварэнне карысталася нацыянальнымі гістарычнымі сімваламі. Народным Сакратарыятам (урадам БНР) была створана спецыяльная камісія па выпрацоўцы дзяржаўных эмблем і ўстанаўленні гістарычных дзяржаўных тэрмінаў. Камісію гэту ўзначальваў Язэп Варонка; у яе склад уваходзіў вядомы вучоны Мітрафан Доўнар-Запольскі. Як сведчаць дакументы тых часоў, камісія працавала даволі плённа. Ужо 28 красавіка 1918 года Народны Сакратарыят, разгледзеўшы рэферат старшыні Язэпа Варонкі "Аб устанаўленні дзяржаўнай пячаткі рэспублікі", аднадушна прыняў прапанову дакладчыка і зацвердзіў малюнак, на якім паказана пячатка беларуска-літоўскага князя Міндоўга XIII стагоддзя (1242—1263). Яна мела наступны выгляд: у сярэдзіне пячаткі — рысунак "Пагоні" на выпуклым квадратным арнаменце са старабеларускім узорам па баках. Хунка (папона) на кані — у тры зубцы. Навокал "Пагоні" — надпіс у стылі летапісу: "Беларуская Народная Рэспубліка".

24 мая 1918 года камісія па выпрацоўцы дзяржаўных эмблем і ўстанаўленні гістарычных дзяржаўных тэрмінаў прапанавала на разгляд праект перайменавання існуючых дзяржаўных установ і пасад. Адзначалася, што тэрміны "Народны Сакратарыят", "Рада", "Старшыня" і іншыя былі ўзяты часткова з амерыканскай канстытуцыі, украінскай, нямецкай, польскай або пераведзены з рускіх найменняў. У якасці галоўнай асновы для перайменавання беларускіх установ, на думку аўтараў праекта, павінен быць узяты Літоўскі Статут, а таксама гістарычныя доказы прафесараў Доўнар-Запольскага, Завітневіча, Карскага і інш. У праекце былі прадугледжаны наступныя перайменаванні: Беларуская Народная Рэспубліка павінна называцца Рэччу Паспалітай Беларускай, Рада БНР — Вальным Соймам Рэчы Паспалітай Беларускай, Старшыня Рады — Галоўным Маршалкам, Народны Сакратарыят — Радай Рэчы Паспалітай Беларускай, Старшыня Народнага Сакратарыята — Канцлерам Рэчы Паспалітай Беларускай, Сябры Рады — пасламі Вальнага Сойму, Загадчык спраў — Генеральным пісарам, Правінцыйныя Рады — Соймікамі, Устаноўчы сход — Вялікім Вальным Соймам, Гарадскі галава — войт. Праект быў прыхільна сустрэты ў Народным Сакратарыяце і, як сведчаць дакументы, павінен быў быць зацверджаны ў бліжэйшы час.

Адзначаная вышэй камісія працавала даволі плённа. Пункт 25 Дэкларацыі кабінета Рамана Скірмунта, якая была абвешчана 9 ліпеня 1918 года, адзначае, што "гербам Беларускай дзяржавы прызнаецца "Пагоня". Адначасова з распрацоўкай праекта дзяржаўнага герба вядзецца праца над дзяржаўным штандарам. У часе працы ўзнікалі пэўныя цяжкасці наступнага характару, адзначаныя ў газеце "Беларускі шлях". "Вельмі шкодзіць у гэтым кірунку тое, што ліцвіны, не маючы ніякай нацыянальна-палітычнай эмблемы ў відзе штандара, запазычылі некаторыя эмблемы ў беларусаў. Як вядома, тэрмін "Літоўская Русь" ужываецца ў тэрытарыяльным разуменні і ніколі не існаваў тэрмін "Руская Літва", разам з непраўдзівым тлумачэннем першага тэрміну ліцвіны і прэтэндуюць на правы аграмаднай большасці (з самых старых часоў) нацыянальнай і культурнай, — беларусаў". У літоўцаў, як і ў беларусаў, ішло адраджэнне дзяржаўнасці. Кожны з народаў выступаў у якасці наследніка ранейшай сумеснай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага. Гербам Вялікага Княства была "Пагоня", пачынаючы з XIII стагоддзя. Гэта быў сімвал дзяржаўнай самастойнасці і незалежнасці беларускага народа. Гербам Жмудзі — продкаў сучасных літоўцаў — была выява мядзведзя (паводле кнігі "Наш сімвал — Пагоня" А.Цітова). Першыя згадкі пра бел-чырвона-белы сцяг мы сустракаем, пачынаючы з 1514 года. Захавалася карціна "Бітва пад Оршай. 1514 г.", якая сведчыць аб гэтым. Вяртанне беларусаў да свайго нацыянальнага сімвала адбываецца на пачатку 1917 года. 6 сакавіка 1917 года ў Мінску адбылася маніфестацыя з нагоды расійскай рэвалюцыі. Як сведчыць у сваіх успамінах Макар Краўцоў (Касьцевіч): "Беларускі штандар, тады яшчэ чыста белы, відаць было сярод чырвонага мора сцягоў рэвалюцыйных арганізацый, што паўсталі, дзякуючы рэвалюцыі. На беларускім штандары з аднаго боку былі толькі два моцныя, многазначныя словы "Жыве Беларусь" і з другога боку: "Вітайма Волю народу" (лацінкай)". Праз тыдзень, 12 сакавіка, у Мінску праводзілася нацыянальнае свята — Дзень беларускага значка — з шырокім продажам відарысаў бел-чырвона- белага сцяга. ("Мінская газета", 1917, 15 сакавіка). Паводле рашэння Рады беларускіх культурна-асветных кружкоў (гурткоў) у арміі ад 5 жніўня 1917 года, воіны-беларусы на франтах першай сусветнай вайны насілі на сваім адзенні бел-чырвона-белыя стужкі. Менавіта бел-чырвона-белы сцяг знаходзіўся на памяшканні былога Губернскага дома (сучасны Музычны ліцэй на плошчы Свабоды), дзе быў утвораны беларускі ўрад — Народны Сакратарыят у лютым 1918 года. Менавіта бел-чырвона-белы сцяг быў зняты немцамі 25 лютага 1918 года, бо яны лічылі ўрад БНР сацыялістычным, а таму і выселілі яго з займаемага памяшкання, забраўшы грошы і маёмасць. У пачатку жніўня 1918 года бел-чырвона-белы сцяг Народным Сакратарыятам пад кіраўніцтвам Янкі Серады быў зацверджаны ў якасці дзяржаўнага сімвала.

Як сведчанне дзяржаўнасці выступае агульнаграмадзянскі пашпарт. Ён быў надрукаваны ў 1918 годзе ў Славянскай друкарні Язэпа Галеўскага ў Берліне. Гэта быў дакумент аб'ёмам 12 старонак, на вокладцы якога была змешчана выява "Пагоні". На першай старонцы знаходзіўся надпіс "Ад імені Беларускай Народнай Рэспублікі", зроблены на беларускай, французскай і нямецкай мовах. Трэба адзначыць, што назвы ўсіх рэквізітаў падаваліся на гэтых трох мовах. У пашпарце нацыянальнасць не ўказвалася, а толькі падданства. Пашпарт можна было выкарыстоўваць у якасці міжнароднага для паездак за мяжу. Акрамя гэтых пашпартоў, прадстаўнікі Рады БНР карысталіся спецыяльнымі дыпламатычнымі пашпартамі, візіраванне якіх азначала фактычнае прызнанне з боку той дзяржавы, куды накіраваны былі прадстаўнікі. Урад БНР фактычна прызналі Украіна, Літва, Латвія, Эстонія, Германія (у 1919 годзе). Консульствы БНР знаходзіліся ў Даніі, Турцыі, Польшчы, Растове-на-Доне, Маскве. У сувязі з выданнем на Украіне закона аб падданстве ў кастрычніку 1918 года ў Адэсе вельмі вялікая колькасць беларусаў падала заявы аб тым, што яны лічаць сябе грамадзянамі БНР. Грамадзяне-беларусы атрымлівалі пашпарты ў Беларускім консульстве ў Адэсе. Закон аб грамадзянстве быў прыняты Радай БНР у снежні 1919 года, на працягу 1918—1919 гадоў рэгістрацыя беларусаў праводзілася паводле часовай інструкцыі, выдадзенай у маі 1918 года.

Прыведзеныя вышэй факты сведчылі аб тым, што Беларусь знаходзілася на шляху да афармлення сваёй дзяржаўнасці ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі. БНР мела вялікія патэнцыяльныя магчымасці для гэтага, але з-за шэрагу ўнутраных і знешніх фактараў яны не былі рэалізаваны. Нацыянальны рух не ахапіў шырокія слаі насельніцтва, сялянства не было гатова ўспрымаць нацыянальную ідэю, інтэлігенцыя была слабай, уласная буржуазія, якая змагла б адстойваць нацыянальныя інтарэсы, як гэта было ў Польшчы, Фінляндыі, нават на Украіне, адсутнічала. Акрамя гэтага, паводле веравызнання беларусаў дзялілі на католікаў і праваслаўных, што не вельмі спрыяла нацыянальнай кансалідацыі. Калі да гэтага дадаць неспрыяльныя знешнепалітычныя абставіны, бо БНР была "нежаданай" для яе суседзяў, то можна зразумець увесь гераізм і адначасова трагізм той часткі беларускай інтэлігенцыі, якая імкнулася зрабіць свой народ вольным і незалежным.

Валянцін МАЗЕЦ.



Вокладка агульнаграмадзянскага пашпарта БНР.

## АДНА З НЯЗГАСНЫХ ЗОРАК БЕЛАРУСІ

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ

"Пісьмо з правінцыі" напісана рускім рэвалюцыянерам, хоць яно цалкам сугучнае найбольш паслядоўным рэвалюцыянерам усіх народаў. Вобраз сякеры як сімвал будучай сялянскай рэвалюцыі і справядлівай сацыяльнай адплаты наогул быў надзвычай блізкі рэвалюцыйна-дэмакратычнай публіцыстыцы. Яшчэ ў 1853 годзе ў артыкуле "Хрышчоная ўласнасць" з нагоды літаграфіі Азямблоўскага "Беларускі раб", або "Славянскі нявольнік", Герцэн пісаў: "Нянавісць, змяшаная са злосцю і сорамам, напаўняе мне сэрца, калі я гляджу на гэты жорсткі папрок, на гэтае "да сякераў, браткі", прадстаўленае са здзіўляючай вернасцю". Герцэн душой хварэў за народ, у даным выпадку беларускі, але недаацэньваў здольнасць і гатоўнасць народа да рэвалюцыйнага дзеяння. У гэтым праявіліся яго ліберальныя ваганні (або лепш сказаць — адсюль ягоныя ліберальныя ваганні). У адрозненне ад Герцэна Каліноўскі быў непасрэдна знаёмы з беларускім сялянствам, дастаткова ведаў ягоныя думкі і рухі душы. Ён бачыў не толькі здзіўляючую беднасць і бяспраўе, але і сілу пратэсту, яе нараджэнне і нарастанне. У гэтых адносінах ён бліжэй да маладой рэвалюцыйнай дэмакратыі, да Дабралюбава з яго славутым: "Цэлы край так вось узялі і забілі, — як бы не так! Гэта таксама ж, як італьянцаў забілі, расслабілі, пазбавілі любові да радзімы і да свабоды!.. Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы!"

Вера ў народ, у яго невычэрпныя творчыя сілы — адна з асноватворных рыс светапогляду і рэвалюцыйнай тэорыі Каліноўскага. На гэтым трымаўся яго план падрыхтоўкі паўстання, яго палітычная стратэгія і тактыка, яго гістарычны аптымізм. Вось што пісаў вельмі інфармаваны генерал В.Ратч, які па свежых слядах складаў агляд падзей 1863 года: "Каліноўскі, які ствараў свае крайне чырвоныя праекты і цэлы год хадзіў па вёсках і корчмах, лічыў, што існуе адзін толькі сродак прыцягнуць народ, менавіта: раздаць усю пазямельную ўласнасць сялянам і **з асяроддзя земляробаў скласці арганізацыю** (гэтае вельмі істотнае месца ў крыніцы выдзелена. — **Г.К.**). Ён заяўляў, што ўкажа з дробнай шляхты і з сялян на здатныя асобы, якія здолеюць паноў прыняць у рукі; Каліноўскі заяўляў, што пры падобных прызначэннях мяцеж зробіцца справай насельніцтва, што яно тады ўбачыць, што абяцаны дар зямлі не адны толькі пустыя абяцанкі. Ён хацеў прыцягнуць да сябе народ, далёка выйгшаўшы з межаў надзелаў, аддаць усю зямлю сялянам і з асяроддзя сялян выбраць асоб для выканання свайго плана" (Славянское источниковедение. М., 1965. С. 44-45). Правадыр паўстання быў упэўнены, што народ дастаткова выспеў, каб узяць справу свабоды ў свае рукі, — вось пра што гаворыць гэты план. Такой жа ўпэўненасцю прасякнута і публіцыстыка Каліноўскага: "Мінула ўжо тое, калі здавалася ўсім, што мужыцкая рука прыдатная толькі да сахі, цяпер настаў такі час, што мы самі можам пісаці і то пісаці такую праўду справядлівую, як Бог на небе. О, загрыміць наша праўда і, як маланка, пераляціць па свеце. Няхай пазнаюць, што мы можам не толькі карміць сваім хлебам, но яшчэ і вучыць сваей мужыцкай праўды". Або яшчэ: "Возьмемся, дзецюкі, за рукі і дзяржэмся разам!.. Мужык пакуль адужае трымаці касу і сякеру, бараніць свайго патрапіць і ў нікога ласкі прасіць не будзе..." І яшчэ: "...Няма чаго ждаці ад нікога, бо той толька жне, хто пасее. Так сейце ж, дзецюкі, як прыдзе пара, поўнаю рукою — не шкадуйце працы — каб і мужык быў чалавекам вольным, як е на цалюськім свеце". І яшчэ: "Дзяры з нас, цар, дзярыце з нас, чыноўнікі яго, хаця да астатняй шкуры, но памятайце, што і на нас прыдзе пара, памятайце, што калі мужык разгуляецца, то, як свет шырокі, кроў ваша пальецца!!!" Вось яна магутная стыхія сялянскага паўстання, якую належала ўпарадкаваць, аплядніць рэвалюцыйнай свядомасцю, — у гэтым якраз бачылі свой гістарычны абавязак рэвалюцыянеры-дэмакраты. Калі б ад Каліноўскага асталіся толькі гэтыя, самай чыстай пробы, радкі і нічога болей — усё роўна мы адвялі б яму надзвычай высокае месца ў гісторыі беларускай культуры і вызваленчага руху. Такой сілай і верай павявае ад гэтых радкоў. Так дакладна схоплены ў іх надыход новай эпохі — эпохі сялянскай дэмакратыі. Каліноўскі глядзеў у будучыню. Як ніхто іншы, ён разумеў, што будучыня за працоўным народам. І ён прыспешваў гэтую прышласць, рабіў усё магчымае, каб яна надышла хутчэй. Як верны сын, служыў ён сялянскай Беларусі.

Тут мы падыходзім да яшчэ аднаго здзіўляючага аспекту асобы і дзейнасці Каліноўскага. Да XIX стагоддзя дваранства Беларусі ў сваёй пераважнай большасці было паланізавана. Склалася дзіўная сацыяльна-этнічная сітуацыя: дваране — палякі, мужыкі — беларусы. Так бывае толькі ў заваяванай краіне. А Польшча ж Беларусь не заваёўвала. Як бы выпраўляючы гэтую найвялікшую гістарычную несправядлівасць, Каліноўскі і тут быў на баку народа. Выхадзец з тых слаёў насельніцтва Беларусі, якія, як правіла, не лічылі сябе беларусамі, ён не адзін раз засведчыў сваё адзінства са зняволеным народам, кінутым на волю лёсу адукаванымі класамі. За некалькі дзён да смерці, знаходзячыся ў турме, ён піша звернутыя да беларускага народа "Лісты з-пад шыбеніцы". На здзіўляюча сакавітай, цудоўнай, крынічнай чысціні беларускай мове — не вывучанай (дый вучыць яе, уласна кажучы, не было тады па чым), а ўспрынятай з матчыным малаком. "Браты мае, мужыкі родныя, — пісаў правадыр паўстання. — З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці і можа раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, но не жаль згінуць за тваю праўду..." Можна цытаваць і цытаваць, звяртаючы ўвагу на многія аспекты, напрыклад, на тое, што "праўда", сімвал сялянскіх уяўленняў аб справядлівасці, як і ў яго паслядоўнікаў Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, — наогул адно з любімых слоў Каліноўскага, але я хацеў бы ў даным выпадку падкрэсліць недвухсэнсавасць сыноўскага звароту "дарагі мой народзе". Такімі словамі лішне не кідаюцца. Нават у вершы, звернутым да любімай дзяўчыны, ён зноў і зноў лунае неадступнымі думамі пад саламянымі стрэхамі сялянскіх хацін, развітваецца з усім сваім народам, якому як публіцыст-заступнік вядомы быў пад імем "Яські-гаспадара з-пад Вільні":

**Бывай здаровы, мужыцкі**
**народзе,**
**Жыві ў шчасці, жыві ў**
**свабодзе,**
**І часам спамяні пра**
**Яську свайго,**
**Што згінуў за праўду для**
**дабра твайго.**

Ці можа быць большая лучнасць народа са сваім сынам? У сувязі з гэтым успамінаюцца словы Уладзіміра Караткевіча, які, закранаючы пытанне пра непарыўнае адзінства Каліноўскага з беларускім народам, нагадаў у адной з заўваг да рамана "Каласы пад сярпом тваім" вядомыя гістарычныя факты: "...Між тым, паролем Кастуся і яго сяброў былі словы: "Каго любіш? — Люблю Беларусь! — Так узаемна".

Але нават калі б не было гэтага, заставаўся б яшчэ адзін, непарушны нічым факт: мова чалавека. На ёй (беларускай мове) напісаны перадсмяротныя вершы Каліноўскага".

Сапраўды, факт неаспрэчны, які гаворыць сам за сябе.

А другі пісьменнік і даследчык — Уладзімір Калеснік, ні ў якой меры не схільны да перабольшанняў і паўтарэння ходкіх ісцін (ён ішоў да Каліноўскага сваім уласным шляхам), адзначыў: "Кастусь Каліноўскі першы назваў беларусаў народам і ў "Пісьме з-пад шыбеніцы" прадказаў ім свабодную будучыню. Правадыр паўстання і яго паплечнікі сталі першымі героямі беларускай нацыянальнай легенды..." Кастусь, паводле слоў таго ж Калесніка, "так пранягся культам мужыцкай праўды, зямлі і волі, што, здавалася, не адчуваў уласнай апантанасці: для яго смерць за праўду — маральная норма, узгодненая сэрцам і розумам. Каліноўскі — рамантык праўды і волі".

І вось ён паставіўся з пагардай да бляску дваранскага стану, з пагардай паставіўся да кар'еры ўдачлівага юрыста або адміністратара, што адкрылася перад ім пасля бліскучага заканчэння універсітэта (менавіта да такой дзейнасці рыхтаваў "камеральны разрад" юрфака, дзе вучыўся Каліноўскі) і палічыў за лепшае, нават за адзіна магчымае для сябе служэнне народу, калі не сказаць зліццё з народам. Бо ён быў патрэбны народу. Бо перад ім, як ні перад кім іншым, востра паўставала гэтае вечнае пытанне, якое ва ўсе часы рухала сапраўднымі патрыётамі, сынамі айчыны — калі не я, дык хто ж? Таму і лічым мы ягонай галоўнай рысай усё-такі справядлівасць. Справядлівасць і абвостранае пачуццё сумлення. "Я называю героем толькі таго, хто вялікі сэрцам", — сказаў Рамэн Ралан. Гэта цалкам стасуецца да Каліноўскага.

Адкуль гэта ў яго?

Мы гаворым, што чалавека фарміруе сям'я, школа, жыццё. Угледзімся ў сямейную атмасферу. Сям'я як сям'я з усімі ўласцівымі ёй рысамі дробнашляхецкага побыту. І, зрэшты, адметная. Бацька Сымон Сцяпанавіч быў разумным, энергічным і дальнабачным (прынамсі ў дзелавых адносінах) чалавекам. Не маючы, што называецца, ні кала ні двара, без асаблівых сродкаў і сувязяў, ён заняўся прадпрымальніцтвам, заснаваў спярша на чужой зямлі ткацкую палатняную фабрыку, дабіўся высокай якасці і канкурэнтаздольнасці прадукцыі, набыў невялікі фальварак, куды перанёс свае прадпрыемства, сышоўся блізка з некаторымі віднымі прагрэсіўнымі сучаснікамі (яго прыяцелем быў, напрыклад, былы філамат, перадавы аграном свайго часу М. Фрычынскі). Так што свежы вецер эпохі адчуваўся нават у клопатах бацькі, у спосабах, якімі здабываў ён свой хлеб надзённы. У той жа час бацька ўпарта вёў у сенаце справу аб дваранстве і дабіўся-такі ў 1855 годзе зацвярджэння Каліноўскіх у дваранскім званні. Як-ніяк дваранскія дакументы ў тагачасных умовах значылі многае, давалі магчымасць мацней стаяць на нагах.

І тым не менш вісеў над сям'ёй нейкі злы лёс, нейкі фатум. Рана памерла маці Кастуся — Вераніка Рыбінская. Усе яе дзеці былі хваравітыя і жылі нядоўга. "Ад першай жонкі па прозвішчы Рыбінскай меў 12 дзяцей, якія ўсе памерлі, і ад другой па прозвішчы Лазарэвіч маю 5 дзяцей", — паведамляў дзесьці неўзабаве пасля смерці Кастуся бацька. Нягледзячы на нейкую дзелавітую будзённасць і сухасць, даведка гэта вельмі ўражвае. Пры ўсім рацыяналізме Сымона Сцяпанавіча чуецца тут прыглушаная пакута душы — за што? Са стратай Кастуся абарвалася апошняя жывая повязь са светам беларускай шляхцянкі Веранікі Рыбінскай, якая дала чалавецтву дванаццаць жыццяў. Да 1864 года памерла адзінаццаць. Кастусь быў апошні, дванаццаты (зразумела ж, ён думаў, помніў пра гэта, калі ўзыходзіў на эшафот). Феномен Каліноўскага, калі зірнуць з гэтага пункту погляду, быў акуплены дарагой цаной. Указаныя сямейныя акалічнасці маглі аднолькава спарадзіць у ім і фатальны страх перад жыццём, і бясстрашша. Нарадзілася бясстрашша.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**(Заканчэнне будзе).**

**Працяг. Пачатак у № 11.**

## З ЗАЯВЫ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ГРАМАДЫ

# ЗАЛАТЫМ РАДКОМ У ГІСТОРЫЮ

Напярэдадні 75-й гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі з'явілася Заява Выканаўчага камітэта Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, якая была апублікавана ў некаторых рэспубліканскіх газетах і ў якой, у прыватнасці, гаворыцца, што абвяшчэнне БНР і яе незалежнасці залатым радком упісана ў гісторыю беларускага сацыялістычнага руху.

Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, працягваючы і развіваючы традыцыі Беларускай сацыялістычнай грамады, адстойвае ідэі поўнай дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, якой яна так і не атрымала пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі.

У пачатку сакавіка 1918 года ўрад Леніна, не пытаючы волі беларускага народа, падпісаў у Брэсці мірны дагавор з Нямеччынай, у выніку якога наша краіна стала закладам пад шасцімільярдную кантрыбуцыю, што Масква абавязалася выплаціць Берліну.

Пасля ратыфікацыі Масквой Берасцейскага дагавора Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езда абвясціў Беларусь Народнаю Рэспублікай, стаўшы на абарону яе правоў. Гэта быў адказ на імперыялістычную палітыку бальшавіцкай Расіі і кайзераўскай Германіі, якія не прызналі БНР.

Нямецкія акупанты, дакладна выконваючы Берасцейскі дагавор з бальшавікамі, перашкаджалі стварэнню мясцовых органаў улады, паліцыі, судоў, не далі стварыць Беларускае войска і пакінулі Беларусь безабароннай перад бальшавікамі, якія ў 1919 годзе здалі яе палякам, а потым падзялілі з Літвой, Латвіяй і Польшчай.

Каб адстаяць жыццёвыя інтарэсы народа, паставіць пытанне пра лёс Беларусі перад міжнароднай супольнасцю, Рада БНР 25 сакавіка 1918 года абвясціла поўную незалежнасць нашай Бацькаўшчыны, гэтым самым аднаўляючы беларускую дзяржаўнасць.

Відавочныя поспехі БНР у культурным будаўніцтве вымусілі бальшавікоў і польскіх шавіністаў прызнаць існаванне беларускага народа, яго мовы і культуры.

БНР прызналі шэраг краін, голас яе прадстаўнікоў гучаў на міжнародных канферэнцыях у Парыжы і Генуі. З часу абвяшчэння БНР ідэя нацыянальнай самабытнасці, ідэя беларускай дзяржаўнасці стала невынішчальнай.

Аднак Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада лічыць, што ідэалы 25 сакавіка ў сённяшняй Рэспубліцы Беларусь яшчэ не дасягнуты. Яна не стала пакуль што дэмакратычнай, прававой дзяржавай, наогул існуе рэальная пагроза страты незалежнасці, атрыманай у 1991 годзе.

Да гэтага часу працягвае сваю дзейнасць эміграцыйная Рада БНР, і БСДГ лічыць гэта апраўданым да таго часу, пакуль не будзе прынята дэмакратычная Канстытуцыя РБ, пакуль не будуць праведзены выбары ў новы орган заканадаўчай улады на падставах усеагульнага, прамога і роўнага выбарчага права, пакуль з тэрыторыі Беларусі не будуць выведзены ўсе замежныя войскі.

Беларусам за мяжою варта ведаць, што ўлада ў Рэспубліцы Беларусь належыць былой камуністычнай наменклатуры, гаворыцца ў заяве БСДГ, таму мы сумняваемся ў мэтазгоднасці склікання з'езда беларусаў свету ў гэтым годзе. Паслухмяныя ўладам сродкі масавай інфармацыі выкарысталі б з'езд дзеля агітацыі за цяперашні ўрад.

Выканкам БСДГ прапануе ўсім апазіцыйным палітычным партыям і арганізацыям на Бацькаўшчыне і ў замежжы правесці ўлетку гэтага года III Усебеларускую палітычную канферэнцыю, якая магла б дэталёва абмеркаваць палітычную сітуацыю ў Рэспубліцы Беларусь.

**Д. ЧАРАПОВІЧ.**

## НОВЫ ФІЛЬМ БЕЛАРУСКАГА ТЭЛЕБАЧАННЯ

# ЖЫЦЦЁ І ЛЮБОЎ БЯЛЫНІЦКАГА-БІРУЛІ

НЕ ВЕДАЮ, як для каго, для мяне ж фільм рэжысёра Валерыя Басава па сцэнарыю Віктара Карамазава "Крыж на зямлі і поўня ў небе" пра мастака Бялыніцкага-Бірулю з'явіўся нечаканасцю. Прэм'ера стужкі адбылася ў пачатку месяца ў Доме літаратара. Рэжысёр спадзяецца, што ў красавіку яе пакажуць па Беларускаму тэлебачанню.

Аўтары тактоўна і паступова ўводзяць гледача ў свет творцы. Я не памятаю падобных па тэматыцы стужак. У фільме гучыць беларускае слова. І гучыць натуральна, дастойна. Гэта адбылося, дзякуючы, у першую чаргу, тэксту Віктара Карамазава. І, канешне, працы акцёраў. Пасля сумных прыкладаў непрафесійнага перакладу, агучвання на Беларускім тэлебачанні вынік работы над фільмам "Крыж на зямлі і поўня ў небе" проста парадаваў. Як і тое, што карціна аб пошуках мастака, насычаная светам і музыкай, з'явілася менавіта сёння, калі кожны з нас заняты ці то палітыкай, ці то амаль забіты бытам, калі мастацкае кіно стала працягам нашага шэрага жыцця ("чарнухай" называюць крытыкі такія фільмы). А як вызначыць назву імпартнай кінапрадукцыі, што трапляе ў нашы кінатэатры і на тэлеэкраны, я наогул не ведаю. Мексіканскія меладрамы па тэлевізары і амерыканскія баевікі другога гатунку ў кінатэатры — амаль усё, чым нас "радуюць" сёння. Ёсць, канешне, у Мінску клуб элітарнага кіно, які працуе калі-нікалі. Ёсць на БТ цыкл "Сінема", які прадстаўляе замежныя фільмы. Але большасць з іх — стужкі 60—70-х гадоў, якія ішлі раней у кінатэатрах.

Фільм "Крыж на зямлі і поўня ў небе" зняты на Беларусі. Валерый Басаў — аўтар больш 20 стужак, у асноўным дакументальных. Фільм пра Бялыніцкага-Бірулю, як кажа В.Басаў, меркавалася зрабіць таксама дакументальным. Аднак не знайшлося дастатковай колькасці іканаграфічнага матэрыялу для раскрыцця зместу кнігі В.Карамазава, па якой напісаны сцэнарый. Прыйшлося запрасіць акцёра на ролю мастака. Паступова пачалася праца над стужкай.

У фільме няма дакладна вызначанай сюжэтнай лініі. Яна пункцірна будуецца на лістах Бірулі да дачкі, яе — да бацькі, на ўспамінах, асацыяцыях. Мэта аўтараў фільма, мне здаецца, была не паказ жыццёвых падзей, звязаных з мастаком, а паглыбленне ў яго ўнутраны свет. Пошук сэнсу ў жыцці і творчасці.

Што б ні здаралася з Вітольдам Біруляй, у яго душы (і ў фільме) зноў і зноў з'яўляюцца вобразы першай каханай Зосі, дачкі, любімага мастака Левітана, цудоўнага месца Чайкі. Гэта дазваляе аўтарам фільма зачароўваць гледача музыкай. Яна гучыць у карціне ўсюды (кампазітар — Вольга Гапачка). З самага пачатку дзеяння маленькі Біруля паказаны ў свеце музыкі і колераў. Ён чуе мелодыю і кажа, што гэта жоўты колер. Потым ён чуе Моцарта і апантана шукае на ёлцы цацку таго адцення, якое ён бачыць у музыцы. Не знаходзіць. Цацка ламаецца ў руцэ дзіцяці. І толькі колер крыві, што выступае ад парэзу, здаецца, задавальняе хлопчыка. Тады ён яшчэ не разумее, што ўсё сваё жыццё будзе асуджаны шукаць колер падобным чынам — праз пакуты і боль. Яны дадуць права сказаць мастаку праз шмат гадоў, што ў свеце і ў мастацтве нішто не гучыць асобна, усё — разам. А гармонія цэлага — космас. Ні разу дзеянне карціны не выходзіць на вуліцы горада. Мастак жыве па-сапраўднаму толькі там, дзе піша. У сваёй Чайцы, у Цвярской губерні, куды ён ездзіў надыхацца паветрам зямлі, дзе тварыў Левітан. А глядач дзівіцца прыродзе. Пейзажы ў фільме чароўныя (аператар А.Ванковіч, мастак А.Каткоў). Менавіта зрокавыя эфекты ў спалучэнні з музыкай вылучаюць гэтую карціну. Пейзажы задаюць і яе рытм — павольны і мерны.

Вобраз галоўнага героя стварае малады артыст Сяргей Лясны. Я не бачыла яго раней на экране. Аднак у ролі Бірулі ён мне надзвычай спадабаўся. Канешне, маладому чалавеку іграць спачатку 30-ці, потым 60-гадовага мастака нялёгка. Але ёсць у гэтым акцёры нейкая натхнёная прыгажосць. У яго выразныя вочы, высакародная постаць. Яму верыш. Можа прафесіяналы ўспрымуць вобраз у выкананні Сяргея Ляснога зусім інакш. Мне будзе шкада.

Вітольд Бялыніцкі-Біруля пражыў доўгае жыццё. Калі ён памёр, яму было 85 гадоў. Лёс дараваў яму шмат жанчын, якіх кахаў ён, і яны адказвалі яму ўзаемнасцю. Але, як тлумачыла дачка мастака сваёй маці і іншым жанчынам у фільме, ён быў мастак. І яму было патрэбна нахтненне. Адзінай жанчынай у жыцці мастака заставалася ўсё ж яго дачка, Любачка.

Жанчына з трагічным лёсам, але з чулай да прыгажосці і мастацтва душой. Галіна Кухальская, якая іграе яе ў фільме, прынесла ў яго нешта строгае і пяшчотнае. Яна іграе актрысу з не вельмі ўдалым творчым лёсам, жанчыну, побач з якой — ніводнай роднай душы, акрамя бацькі. Люба іграе на раялі, чытае на памяць Чэхава. Урывак з "Чайкі" А.Чэхава ў яе вуснах гучыць як лейтматыў жыцця яе бацькі. Яна чытае пра ўменне цярпець, несці свой крыж: "І калі я думаю пра сваё прызванне, я не баюся жыцця". Як гэта цяжка — не баяцца жыцця! Тым больш, калі людзі ў ім не разумеюць творцу, асобу. А Любу і яе бацьку не разумелі часта.

Адна з самых удалых і яркіх сцэн у фільме адбылася на невялікім кірмашы, куды Бялыніцкі-Біруля прынёс прадаваць свае карціны. Ён нерваваўся. Адчуваў сябе яўна няёмка, як заўжды інтэлігент сярод гандляроў. За карціну ён атрымаў 2 боханы хлеба ад селяніна. Той жа павольна дастаў з рамы карціну, адставіў яе ўбок, агледзеў тое, што асталося, і кажа: "За такую шыльду два пуды хлеба просіць!.." Вось так. Дык гэта ж селянін. А ў часы больш познія адукаваныя людзі лічылі Бірулю мастаком, не адпавядаючым узроўню савецкага мастацтва. Любачка з бацькам чытаюць у газеце, што на палотнах Бялыніцкага-Бірулі "дробныя пачуцці, камернасць". Калі мастак ганарыўся светам на сваіх карцінах, то Бірулі казалі пра ўплыў імпрэсіяністаў на яго творчасць як пра страшэнны грэх.

Аўтары фільма паказваюць гледачу карціны Бірулі. Яны розныя. Але стыль мастака асаблівы, толькі ягоны. Стрыманасць у фарбах. Серабрыстая гама колераў. Настрой спакойны, ціхі. І лёгкасць. З адчуваннем свята Бялыніцкага-Бірулі супадае ў фарбах з'яўленне ў фільме яго першага кахання — Зосі. Усё тады на экране афарбоўваецца ў чыстыя, светлыя колеры. Пануе любоў і мастацтва. Праз увесь фільм праходзіць успамін мастака пра юнацкае каханне. У канцы свайго жыцця ён скажа вобразу Зосі, які з'явіцца да яго, што заўсёды маляваў толькі яе партрэт. Ён сапраўды ўсё сваё жыццё пісаў прыгажосць, увасобіўшы яе ў прыроду.

Фільм В.Басава небездакорны. Мне здаецца, што было б нядрэнна дачакацца яму ў прыродзе колераў, якія бачыў Біруля — блакітнага, бэзавага снегу, напрыклад. Ці знайсці хаткі, падобныя на якія маляваў мастак. Можна ўспомніць сярод недахопаў некаторую рэзкасць мантажу. Але ўсё гэта забываецца. Застаюцца ў памяці карціны мастака, музыка і прыгажосць краявідаў у фільме.

**Алена СПАСЮК.**

# ШТО ТАКОЕ VITA NOVA?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

— Пакуль не было людзей, якія маглі б дазволіць сабе за такія грошы набываць творы мастацтва, не было і галерэй. Ды і самі галерэі не змаглі б самастойна ўвасабляць у жыццё дарагія праекты, арганізоўваць цікавыя выставы. Паступова нашы бізнесмены пачынаюць разумець, што карціны — гэта адзін з найбольш надзейных сродкаў захоўвання грошай. Яшчэ тры гады таму ты купляў нейкую карціну за тры тысячы рублёў, і раптам высвятляецца, што сёння яна каштуе разоў у сто больш.

**— А наадварот бывае?**

— А каб не было наадварот, якраз і існуюць галерэі, а ў іх — эксперты.

**— Я ведаю, што вы і самі дапамагаеце іншым.**

— Мы стараемся фінансаваць некамерцыйныя структуры і мастакоў. Ужо дапамаглі галерэі глухіх дзяцей Дзмітрыя Ярмілава, пастараемся дапамагаць далей, і не толькі грашыма, але і фарбамі, і паперай. Сёння ў нас адкрываюцца дзесяткі самых разнастайных галерэй, але ж толькі Юрый Іваноў здагадаўся адкрыць галерэю народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Не можа мастацтва, хай самае авангарднае і сучаснае, развівацца без сваіх каранёў. Паколькі гэта і наша пазіцыя, мы будзем дапамагаць гэтай галерэі.

**— Якой вы бачыце сваю будучыню?**

— Сёння мы гатовы да таго, каб працаваць ужо як цэнтр сучаснага мастацтва, выдаваць свой часопіс, праводзіць у Мінску выставы сучаснага мастацтва.

**— Думаеце, атрымаецца?**

— Абавязкова запросім на адкрыццё...

Калі хтосьці з пастаянных наведвальнікаў Vita Nova будзе сцвярджаць, што ён заўсёды разумее ўсё, што тут выстаўлялася і рабілася, што ніколі са здзіўленнем не глядзеў, напрыклад, на мужчынскую кашулю, якая раптам стала прадметам мастацтва, — я не паверу. Часам мне здаецца: нават тыя, хто гэта робіць, да канца не разумеюць, што ў іх атрымліваецца. Але можа і не варта адразу вызначаць, блага гэта ці добра. Ці не заключаецца наша галоўная памылка ў тым, што мы заўсёды і адразу спяшаемся надаць убачанаму сваю адзнаку? А можа, большасці з акружаючых нас з'яў і прадметаў ацэнка ўвогуле не патрэбна? Яны проста існуюць самі па сабе. Хадзі, глядзі. Цікава? Ну і добра. Тым больш, што выставы галерэі, як правіла, існуюць у кантэксце дзейнасці Клас-клуба, дзе сам вечар складаецца з падзей-мазкоў. Гэта таксама асаблівасць галерэі, якая імкнецца да кожнага вечара прапанаваць сваім наведвальнікам новую экспазіцыю.

Хачу сказаць: і ў думках у мяне няма ідэалізаваць гэтую новую для нас з'яву. Хаця б таму, што мне, ды і многім, хто зарабляе значна больш за мяне, пакуль што не па кішэні ўпрыгожыць сваю кватэру творам сучаснага мастацтва. Ды і не часта асабіста я бачыла ў мінскіх галерэях карціны, якія адразу захацелася б купіць. Часам сустракалася такая відавочная халтура, што месца ёй, здаецца, не ў галерэі ў цэнтры горада, а на Камароўскім рынку, дзе дагэтуль гандлююць скарбонкамі-кошачкамі. Але ж, па-першае, не трэба забывацца, што гэта толькі першыя крокі, а яны, як вядома, не заўсёды ўдалыя, і не трэба па іх меркаваць аб будучым шляху. А, па-другое, сустрэла я днямі сваю сяброўку, добрую мастачку, якая ўжо шмат гадоў займаецца керамікай. На дзяжурнае пытанне, як справы, Ала Масіенка расказала, што выстава, у якой прымаюць удзел і яе работы, зараз вельмі паспяхова экспануецца ў Амерыцы, у штаце Пенсільванія. А ў адказ на мае віншаванні зазначыла, што працаваць зараз становіцца ўсё цяжэй і цяжэй і што калі ў мастака зараз няма дадатковых крыніц даходу ці яшчэ адной работы (Ала ўжо многа гадоў выдатна афармляе перадачы Беларускага тэлебачання), то пражыць толькі на тое, што дае творчасць, проста немагчыма. Даражэе гліна, даражэе арэнда майстэрань; а адна гадзіна абпальвання керамікі ў спецыяльнай печы каштуе амаль столькі ж, колькі ўсе вырабы, якія паспееш абпаліць. Да таго ж, як гэта ўсё рэалізаваць?

— А як ты ставішся да мастацкіх галерэй? — спыталася я ў сяброўкі.

— Увогуле, станоўча. Хаця скажу адразу: не заўсёды мы знаходзім агульную мову, узнікаюць праблемы з вызначэннем цэн. Аднак сёння гэта адзін з рэальных шляхоў дапамогі мастакам, бо не кожны, намаляваўшы карціны ці зрабіўшы прыгожыя керамічныя вырабы, здольны вынесці іх на вуліцу і гандляваць. Ды і навошта? Ці ж наша гэта справа? Думаю, калі мастацкіх салонаў і галерэй стане больш і адрэгулююцца ўзаемаадносіны паміж іх уладальнікамі і мастакамі, многія праблемы вырашацца самі сабой.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**



**Споўнілася 35 гадоў народнаму хору ветэранаў вайны і працы Палаца культуры Белсаўпрофа. У калектыве спяваюць людзі, якія прайшлі вялікі баявы і працоўны шлях, артыстам ад 65-ці гадоў і больш.**

**Хор стаў лаўрэатам многіх конкурсаў, аглядаў, фестываляў. У яго рэпертуары песні, што ўвайшлі ў залаты фонд беларускага мастацтва, рускія народныя, песні вядомых беларускіх кампазітараў — У.Алоўнікава, І.Кузняцова, І.Лучанка.**

**Кіруе хорам яго нязменны мастацкі кіраўнік і дырыжор дацэнт Беларускай акадэміі музыкі Мікалай Хвісюк. Хор часта бывае ў воінаў, у працоўных калектывах, у навучальных і навуковых аўдыторыях, на вёсцы. На гастролі выязджае ў Маскву, Санкт-Пецярбург, Харкаў, Полацк, Магілёў.**

**НА ЗДЫМКУ: спявае народны хор ветэранаў вайны і працы Палаца культуры Белсаўпрофа.**

**Фота А. ВАЙНШТЭЙНА.**



# ПРЫЙДУЦЬ У ГОСЦІ "ДАБРАДЗЕІ"

Сёлета 140 выпускнікоў Мінскага мастацкага вучылішча атрымаюць дыпломы. Яны будуць працаваць у Дамах культуры, клубах, музычных школах, дзіцячых садах. А найбольш здольныя выпускнікі змогуць паступаць у інстытут культуры.

Некалі гэта вучылішча скончыў і А. Карповіч. Цяпер ён выкладае тут па сумяшчальніцтву. А асноўная яго работа — галоўны балетмайстар народнага ансамбля "Юнацтва" Палаца культуры прафтэхадукацыі. Гэты калектыў, у якім нямала навучэнцаў вучылішча, адзін з лепшых у сталіцы. Гастраляваў у Польшчы, Францыі. У бліжэйшы час "Юнацтва" адправіцца з канцэртамі ў Бельгію і Францыю.

Добра вядомыя міжнародныя гастрольныя маршруты і загадчыку аддзялення фальклору, выкладчыку І. Кірчуку. Справа ў тым, што ён — кіраўнік гарадскога фальклорна-этнаграфічнага гурта "Дзіва". Гэты калектыў прымае ўдзел амаль ва ўсіх культурна-масавых мерапрыемствах сталіцы. Яны выступалі на Беласточчыне, у Карэліі. А цяпер атрымалі запрашэнне ў Італію. У гурце "Дзіва" вельмі здольныя спевакі, танцоры, музыканты. Многія з іх таксама навучэнцы гэтага вучылішча. Тут іх далучаюць да сапраўднага мастацтва. Для гэтай мэты створаны такі ж гурт "Дабрадзеі". Рэпетыцыі праходзяць у "Сялянскай хатцы", якую "пабудавалі" ў вучылішчы. Менавіта моманты рэпетыцыі і паказаны на гэтых здымках.

Фота А. БАСАВА.





# ВЫСТАВА Ў ЗША

У мастацкай галерэі Масачусецкага універсітэта (горад Амхэрст, ЗША) адбылася выстава фотаздымкаў, якія ў 30-х гадах зрабіў вядомы польскі этнограф і антраполаг Юзаф Абрэмбскі (1905–1967). Выстава адлюстроўвала быт сялян той часткі Палесся, якое ў міжваенны час уваходзіла ў склад Польшчы. Яна засведчыла, што гэтае жыццё было вельмі патрыярхальнае і мала чым адрознівалася ад існавання палескіх сялян больш адлеглых часоў. Праўда, трэба адзначыць, што антраполаг Юзаф Абрэмбскі наўмысна фатаграфаваў тыя мясціны і вёскі, якія найбольш захавалі патрыярхальны ўклад жыцця. Як адзначалі арганізатары выставы, мэта яе – паказаць жыццё на радзіме продкаў шматлікіх амерыканцаў, чые бацькі перасяліліся ў Амерыку з Палесся, а таксама параўнаць палескую вёску з амерыканскімі фермерскімі гаспадаркамі, такімі, якімі яны былі ў 30-я гады (відаць, і амерыканская "глыбінка" тады захоўвала шмат чаго з мінулага стагоддзя).

У друкаваным каталогу матэрыялаў, які быў выдадзены ў дапамогу наведвальнікам выставы, "Народы ўчора: сяляне Палесся" распавядаецца пра Юзафа Абрэмбскага і яго дзейнасць, даецца кароткі гістарычна-этнаграфічны агляд Палесся, а таксама апісваецца паўсядзённы лад палешукоў тых аддаленых часоў, які наведвальнікі маглі адразу ж убачыць на фотаздымках.

Вельмі хацелася б, каб і мы калі-небудзь змаглі ўбачыць тое, што зусім нядаўна адкрылі для себя амерыканцы – наведвальнікі выставы.

**Юрась ЖАЛЕЗКА, навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны.**

# ДЛЯ ПОЛЬСКІХ БЕЛАРУСАЎ

Гродзенскі культурна-асветны фонд "Бацькаўшчына" і рэдакцыя мясцовай газеты "Пагоня" аб'явілі аб дабрачынным зборы кніг мастацкай літаратуры, падручнікаў, слоўнікаў для беларусаў Беласточчыны. Акцыя арганізавана па просьбе настаўнікаў-беларусістаў школ і ліцэяў Беласточчыны, якія нядаўна знаходзіліся на курсах у абласным інстытуце ўдасканалення настаўнікаў. Кнігі мяркуецца перадаць непасрэдна ў школы і ліцэі, дзе вывучаецца беларуская мова, у Бельску, Гайнаўцы, Орлі і іншых населеных пунктах.

Да гэтай акцыі могуць падключыцца ўсе, звязаўшыся з газетай "Пагоня" па адрасу: 230023, г.Гродна, вул. Дамініканская, 1.

## З БЕЛАРУСКАГА НАДДЗВІННЯ Ў ЛАТВІІ

**Нарадзіўся ў вёсцы Падольцы Астравецкага раёна, што на Гродзеншчыне. Пасля войска два гады працаваў шафёрам на радзіме. Працаваў на чыгунцы доўгі час (13 гадоў). Зараз — намеснік дырэктара школы па гаспадарчай частцы.**

**У 1987 годзе скончыў завочна беларускае аддзяленне філфака БДУ.**

**У 1983 годзе ў серыі "Першая кніга паэта" выйшаў калектыўны зборнік "Сцяжына", дзе была змешчана вялікая падборка маіх вершаў.**

**Друкаваўся ў беларускіх рэспубліканскіх часопісах і газетах. У Даўгаўпілсе жыву 7 гадоў.**

Станіслаў **ВАЛОДЗЬКА.**

### ВАНДРОЎНІК

То ў зор, то ў сонца полі зроку
Ідзе, а з ім — то снег, то дождж.
Турыстам ён па волі року
Схадзіў краіну ўшыр і ўдоўж.

І што ў грудзях у многіх праўды,
Як і ў нагах ляных, не больш,
Заўважыў ён даўно: для ўлады —
Як брыдкі смоўж — няшчасны бомж!

І мне спасцігнуць немагчыма,
І не магу свой страх схаваць:
Як можа мілая айчына
Сваё дзіця — жыўцом хаваць?!

Калі ж памрэ ён — што папішаш
(Аднак — прапала — не пішу),
Адна надзея ёсць: прапіша
У раі Бог яго душу!

А тут надзейнага прытулку
Знайсці не змог, хоць збіўся з ног...
О, Божа, хто ўратуе бомжа,
Калі ў нас бомжам быў сам Бог?!

"Зямля — наш дом".
І ў гэтым доме
Няма бяздомнай долі горш,
Калі душа ў адчаі тоне —
Мароз па скуры — хто не "морж"!

Хоць і мяне падчас прыцісне —
Смяшынкі іскрамі з вачэй —
Ды ўсё ж прыгоннаму прапіскі,..
Чым бомжу, ў шмат разоў лягчэй!..

* * *

Ноша ўпала з плячэй,
Ды не стала лягчэй:
Лёг цяжар на душу
— Каб хоць слёзы з вачэй.

І не раз мне яшчэ
Сэрца жаль апячэ,
Што не змог утрымаць
Ношу — ўпала з плячэй...

### ПУЦЯВОДНАЯ НІЦЬ

Як з матулінага лета —
Гэта сонечная ніць.
Я магу па ёй з край свету
Ў край дзяцінства пазваніць.

І ў журбе асенняй ночы
Светла мне пагаманіць
З тою вёскай,
Дзе аднойчы
Мама прала гэту ніць.

Што вядзе мяне праз годы
І, бывае, аж струніць —
Цягне ў добры бок заўсёды
Гэта праведная ніць.

Як бы мог я ў людзі выйсці
І ў жыцці сябе знайсці,
Без радзімай гэтай ніці
Да чаго б я мог дайсці?!

На дасвецці
Весні вечер
Вербным веццем
Асяніць:
І злой сілай не парвецца
Гэта тоненькая ніць!

## У БЕЛАРУСАЎ БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА

# 100-годдзе М. ГАРЭЦКАГА НА ГАЛІЧЫНЕ

Беларускае нацыянальна-культурнае таварыства "Белая Русь" створана ў Львове нядаўна, але ўжо некаторыя крокі сведчаць аб тым, што яно паступова займае сваё месца ў культурным жыцці Львоўшчыны.

Так, 18–20 лютага прайшоў шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных 100-годдзю М. Гарэцкага.

Цікава і нечаканая прагучала па львоўскаму радыё перадача "Неўмiручае слова", падрыхтаваная рэдактарам літаратурна-драматычных перадач Ю. Біруковай, у якой прынялі ўдзел загадчыца аддзела бібліятэкі АН Украіны О. Канцалаба, старшыня таварыства Б. Цімошчанка і іншыя.

У выставачнай зале бібліятэкі АН Украіны імя Стэфаніка сваё пачэснае месца заняла выстаўка твораў М. Гарэцкага. У яе адкрыцці з прамовамі аб творчасці пісьменніка, аб яднанні і ўзаемаўзбагачэнні культур Беларусі і Украіны выступілі загадчык упраўлення культуры абласной адміністрацыі З. Мазурык, выконваючы абавязкі галавы аддзялення спілкі пісьменнікаў Л. Рызнік. Заключным акордам на адкрыцці выстаўкі прагучала слова вітання ансамбля "Радаўніца" з Мазыра.

20 лютага сцэна львоўскага будынка актора была прыбрана па-святочнаму. На сцэне партрэт М. Гарэцкага, кветкі. Ад абласной адміністрацыі вітальнае слова зрабіў памочнік першага намесніка прадстаўніка прэзідэнта пан Б. Ісків. З дакладам выступіў старшыня Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" спадар Я. Лецка. З музычным вітаннем выступіў заслужаны ансамбль бандурыстаў львоўскай філармоніі. Затым адбыўся вялікі святочны канцэрт фальклорнага ансамбля "Радаўніца" з Гомельшчыны. Ён пакарыў сэрцы не толькі беларусаў Львоўшчыны, але шмат нашых украінскіх сяброў, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, хто прыняў удзел у святкаванні.

**Б. ЦІМОШЧАНКА.**

НАТАТКІ БІЁЛАГА

# ЧАМУ СПЯВАЕ САЛАВЕЙ?



Спевы салаўя, кваканне жаб, рык аленя, барабанны пошчак зайца – усё гэта не што іншае, як своеасаблівыя словы, якія патрэбны жывёлам, каб пазнаёміцца адзін з адным, папярэдзіць аб небяспецы, прыгразіць ці спалохаць. Самая распаўсюджаная і багатая мова ў свеце жывёл – спевы птушак. Адны гукі з'яўляюцца сігналамі небяспекі, другія – абвяшчаюць пра знаходку ежы, трэція – клічуць у госці. Нават самыя маўклівыя з іх выдаюць сотні розных гукаў. Вельмі багатая мова чародных птушак, чые сігналы дазваляюць кіраваць чарадой.

Вясной мы любім слухаць спевы салаўя. Спевы – гэта таксама інфармацыя для іншых насельнікаў лесу. Якое яе прызначэнне? Сваімі спевамі (а спяваюць толькі самцы) салавей інфармуе сапернікаў аб тым, што дадзены ўчастак, скажам, парку, гаю ці апушкі лесу, ім ужо заняты і ён нікому не дазволіць урывацца сюды. Гэтая ж песня для "сяброўкі" нясе зусім іншую інфармацыю. А менавіта: "знайшоў добры ўчастак парку і запрашаю сваю абранніцу прыляцець сюды, каб разам будаваць гняздо і пачынаць сямейнае жыццё".

Калектыўныя зносіны характэрныя і сініцам. Іх галасы маюць найбольш выразныя гукі. Чародкі гэтых маленькіх птушак вышукваюць у лясных укрыццях насякомых. Разам яны ачышчаюць лес больш старанна, чым калі б дзейнічалі паасобку. Як правіла, чародкі гэтыя складаюцца з птушак розных відаў.

Птушкі аднаго віду, але якія жывуць у розных частках планеты, не маюць агульнай мовы. Іх нават можна падзяліць на асобныя "моўныя групы". Аказалася, што вароны, што жывуць у ЗША, зусім не разумеюць французскіх варон. У той жа час сярод птушак сустракаюцца "паліглоты". Гэта птушкі, якія пастаянна вандруюць, дзякуючы чаму асвойваюць "дыялекты" мовы сваіх аселых родзічаў.

Моваю гукаў карыстаюцца не толькі птушкі. Гукавая сігналізацыя ў звяроў таксама дасканалая і спецыфічная. З дапамогай голасу размаўляюць жывёлы, якія палююць статкамі, напрыклад, ваўкі і дзікія сабакі. Не менш за 36 розных тыпаў гукаў выдаюць лісіцы. Краты гучна, сярдзіта пішчаць, асабліва ў веснавых бойках, а таксама мурлыкаюць. У вожыка больш разнастайны рэпертуар – ад бурчання, кашлю і фыркання – да рохкання, піску і жалобнага крыку. Гучна стукаюць па зямлі лапкамі зайцы і дзікія трусы, і недзе непадалёк чуюць гэтыя пасланні іх сяброўкі. Прывядзём адзін вельмі цікавы выпадак. У амерыканскім горадзе Бостане наведвальнікаў акварыума сустракае дружалюбным прывітаннем: "Як маецеся?" цюлень па мянушцы Гувер. Ён называе сваё імя, але раптам можа ашаламіць наведвальнікаў рэзкім воклічам: "Уцякайце адсюль!". Цюлень, які гаворыць глыбокім басам, стаў прадметам вывучэння заолагаў і заапсіхолагаў.

Акустычнай інфармацыяй карыстаюцца не толькі птушкі і млекакормячыя, але і амфібіі. Уявіце сабе, што вы сядзіце веснавым цёплым вечарам на беразе сажалкі ці возера. Вячэрняя цішыня парушаецца "канцэртам" жаб. Выгляд у гэтых спевакоў вельмі дзіўны. Яны поўныя ўласнай годнасці. Важна надзімаецца перламутравае горла, бліШчаць выпучаныя вочы.

А цяпер крыху пра гукавую інфармацыю ў насякомых. Даследаванні паказалі, што гукі, якія некаторыя насякомыя робяць сваімі крыламі, з'яўляюцца важным сродкам зносін. Стракатанне конікаў і цвыркуноў з'яўляецца шлюбнай песняй. Насякомыя робяць гэтыя гукі пры дапамозе трэння нагой па зубчастым краі крыла ці пры дапамозе крылаў адно аб адно.

Чытач можа спытаць: а для чаго чалавеку трэба вывучаць гэтыя мовы ў свеце жывёл? А хіба не цікава даведацца, чаму спявае жаваранак ці салавей, пра што стракоча конік, якімі навінамі абменьваюцца ваўкі? Але веданне мовы птушак, звяроў і насякомых мае і практычнае значэнне. Так, з дапамогай гуказапісу і магутных гучнагаварыцеляў, імітуючых сігналы трывогі ў птушак, можна (і гэта ўжо робіцца) разганяць на кукурузных палях вялікія чароды гракоў, на паспяваючых чарэшнях і на вінаградніках – шпакоў, прадухіляючы такім чынам магчымыя страты. Не выключана, што вывучэнне "электрычнай мовы" рыб дапаможа стварыць новыя спосабы адлову і дазволіць кіраваць статкамі рыб у перыяд нераставання і міграцый.

Вучоныя расшыфравалі састаў рэчываў, што прыцягваюць насякомых, і навучыліся іх выпрацоўваць. Калі пакласці ў спецыяльныя пасткі нават мізэрную колькасць такога рэчыва, то з усяго поля ў пастку паляцяць самцы. У лясгасах, на прыісках, у геалагічнай разведцы гнюс – бедства. Вучоныя сталі запісваць сігналы, якія падаюць камары ў час пошуку ежы, а таксама сігналы аб небяспецы. Умеючы перадаваць сігналы машкары living рознымі апаратамі, можна прымусіць яе разляцецца ці, наадварот, сабрацца ў спецыяльныя пасткі. Такі "камарыны ўраджай" можна перапрацоўваць на духі, спірт, корм для птушак і рыб.

Зусім відавочна, што вывучэнне мовы жывёл абяцае ў будучыні яшчэ многа цікавых адкрыццяў.

**Аляксандр КУРСКОЎ,**
**кандыдат біялагічных навук.**

# У ЛЕПШЫХ ТРАДЫЦЫЯХ

Завяршыўся міжнародны турнір на прызы трохразовага алімпійскага чэмпіёна Аляксандра Мядзведзя. У Мінск з'ехаліся прадстаўнікі дзевятнаццаці краін, сапернікі добра вядомыя і вельмі моцныя. Немцы прыслалі ў Беларусь аж восем чэмпіёнаў сваёй краіны, трое з каманды ЗША – удзельнікі Алімпіяды-92 і г.д.

Толькі расіяне прывезлі ў Мінск не першы састаў. Але добра вядома моц вольнікаў гэтай краіны. Па словах трэнера расіян і вялікага сябра Аляксандра Мядзведзя Івана Ярыгіна, ён спецыяльна прывёз на турнір перспектыўную моладзь, будучых алімпійцаў.

Па свайму ж складу, удзелу мацнейшых барцоў планеты, узроўню, як адзначыў віцэ-прэзідэнт ФІЛА (Міжнароднай федэрацыі барацьбы) Рафаэль Марцінеці, гэтыя спаборніцтвы як мінімум адпавядалі чэмпіянату Еўропы.

Найбольш прадстаўнічай на турніры была каманда гаспадароў. Тут і пераможцы нацыянальных першынстваў, і ўдзельнікі Алімпіяды, сусветных першынстваў. Праўда, трэнеры Беларусі праверылі і групу маладых барцоў. Але старэйшыя калегі аказаліся даволі строгімі экзаменатарамі. І, як правіла, не прапускалі наперад маладых. Таму на п'едэсталах гонару мы бачылі ў асноўным толькі імянітых.






Найбольшы ж поспех выпаў на долю гаспадароў. Беларускія спартсмены заваявалі на гэтым турніры пяць галоўных прызоў. Пераможцамі сталі гамяльчане Ігар Козыр, Вугар Аруджаў, Сяргей Смаль, а таксама Аляксандр Саўко і Алег Гогаль. Трэцяе месца заняў мінчанін Шаміль Абдурахманаў. Як бачым, цэнтр падрыхтоўкі высакакласных барцоў перамясціўся на перыферыю. Гэта ўжо трывожна. Бо некалі менавіта ў Мінску хутчэй за ўсё выраслі чэмпіёны. Хаця прэстыж Рэспублікі Беларусь ад гэтага зусім не знізіўся: пяць пераможцаў турніру – палавіна галоўных прызоў А. Мядзведзя засталася дома.

Спаборніцтвы былі добра арганізаваны, у лепшых традыцыях беларускай гасціннасці.

**НА ЗДЫМКАХ: на вышэйшай прыступцы п'едэсталу — А. ГОГАЛЬ; А. МЯДЗВЕДЗЬ і віцэ-прэзідэнт ФІЛА Р. МАРЦІНЕЦІ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# "МЕЛОДЫІ КАЛІГРАФА"

Выдавецтва "Полымя" пры садзеянні фонду дапамогі развіццю культуры падрыхтавала да выпуску унікальную кнігу "Мелодыі каліграфа", напісаную "ўручную" ад тытульнага аркуша да выхадных даных. Гэта выпадак, аналагаў якому няма ні ў рэспубліцы, ні ў СНД, калі адзін аўтар, графік-каліграф Павел Семчанка, змог скласці і каліграфічна напісаць тэкст, выканаць фатаграфіі і графічныя ілюстрацыі, распрацаваць арыгінал-макет для друку.

# ПЕРШЫ МАЛАДЗЕЧАНСКІ

Ён пройдзе 4–6 чэрвеня ў Маладзечне і будзе называцца першым Рэспубліканскім фестывалем песні і паэзіі. Сярод заснавальнікаў гэтага дзейства – Дзяржаўны канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, які будзе суправаджаць усе канцэрты фестывалю.

На працягу трох дзён выступяць вядомыя калектывы рэспублікі, пройдзе конкурс беларускай эстраднай песні для моладзі ад 13 да 18 гадоў, аркестр Фінберга ўпершыню пакажа праграму "Музыка народаў маёй рэспублікі", прагучаць таксама творы беларускіх кампазітараў 50–70 гадоў і сучасныя беларускія песні.

# МЕДАЛІ З БАРЭЛЬЕФАМ МАЙСТРА

Радашковіцкаму аб'яднанню мастацкай керамікі не прывыкаць да выканання спецыяльных заказаў, звязаных са знакамітымі юбілеямі ў жыцці краіны. На гэты ж раз мясцовыя майстры па эскізе мастака Леаніда Грыцкова выпусцілі памятныя медалі з выявай Максіма Гарэцкага. Тыраж іх невялікі – усяго 150 асобнікаў. Так што спяшайцеся, калекцыянеры!

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку"
Тыраж 5 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 441.
Падпісана да друку 22.03.1993.